PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 30 (1941) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 25 ЛІПЕНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## БЕЛАСТОЦКІЯ СПІРТАНОШЫ

**З жыцця кантрабандыстаў**

Словы „кантрабанда", „кантрабандыст" заўсёды знітоўваліся ў маёй свядомасці з нечым напаўкрымінальным-напаўрамантычным — але бліжэй да апошняга: чамусьці адразу ўспаміналіся навелы Праспера Мерымэ з адпаведнымі сюжэтамі — „ліёнскі ядваб", „са шпагай пад плашчом", „перастрэлкі з жандарамі на горных дарогах"... Ці класічны галівудскі набор: „сухі закон", Аль Капонэ ці Дылінджэр са сваімі жорсткімі і бязлітасными мафіёзі, чыкагскія паліцыянты, што выліваюць сотні галонаў сканфіскаванага віскі на гарадскі брук...

Аматараў рамантыкі і дэтэктыўных сюжэтаў папярэджваю адразу: у гісторыі, якую я мушу распавесці, не будзе ані зухаватых перастрэлак, ані кінематаграфічнай мафіі. Праўда, некалькі літраў жахлівай атруты пад назовам „Раяль" усё-ткі сканфіскуюць на мытні ў Кузніцы-Беластоцкай, але пра факт гэты я згадаю не з маралізатарскімі мэтамі а, хутчэй, дзеля інтрыгі — хіба можна абыйсціся без інтрыгі ў расказе пра такую цікавую прафесію?

* * *

У начную электрычку Гродна—Беласток я сеў разам з двума на выгляд дваццаці-дваццацідвухгадовымі хлопцамі. Літаральна праз некалькі хвілінаў пасля адыходу цягніка хлопцы тыя павыцягвалі з валізкаў ды рукзакоў бліскучыя рознакаляровыя блокі цыгарэт „WEST" і „CAMEL", а галоўнае — цэлую батарэю „Раяля".

„Цікава, як яны здолелі пранесці гэта праз гродзенскую мытню?" — падумалася мне, а юнакі тым часам прыняліся хутка развінчваць якісьці люк у падлозе вагона. Не паспеў я й падумаць, нашто яны гэта робяць, як большасць цыгарэт і пляшак была акуратна складзена пад падлогай, а сам люк імгненна завінчаны. „Відаць, гэтыя хлопцы — крутыя кантрабандысты, — міжволі з павагай падумаў я, — што ні кажы, а назіраць за працай сапраўдных прафесіяналаў заўсёды прыемна!" Пакуль я дзівіўся спрыту юных парушальнікаў мытных законаў, тыя прыняліся рассоўваць па кішэнях, рукавах і нават больш інтымных месцах рэшту цыгарэтаў і спірту. Але кантрабанды было зашмат, і кішэні, рукавы ды розныя інтымныя месцы, незанятыя тытунём і алкаголем, неўзабаве скончыліся. „Слухай, пан, — нечакана звярнуўся да мяне адзін з хопцаў,— чы можэ пан схаваць едну пляшку спірытусу?" Мы разгаварыліся. Хлопец той — назаву яго Т., бо па зразумелых прычынах я не магу называць ягонае сапраўднае імя, — адрэкамендаваўся, між іншым, „праваслаўным беларусінам". Не дапамагчы земляку ў складанай сітуацыі — цяжкі грэх, і таму я вырашыў першы раз у сваім жыцці парушыць мытны кодэкс і прыхаваў пляшку ў рукаве курткі.

Не варта і казаць, што з'яўлення польскіх мытнікаў баяліся ўсе, а больш за ўсіх — я. Вось знойдуць у мяне спіртус — можа, і назад адправяць, а

☞ Працяг на стар. 3


*Беластоцкая дэлегацыя на І З'ездзе беларусаў свету (пра з'езд чытайце на 1, 2 і 4 старонках).* **Фота М. Лукшы**

## ЗНЯЛІ БУРМІСТРА

6 ліпеня гэтага года ў Гайнаўцы прайшла сесія Гарадской рады. Датычыла яна справаздачы Рэвізійнай камісіі ды выяўленых гэтай жа Камісіяй недакладнасцяў у працы Гарадской управы.

Рэвізійная камісія ў сваёй справаздачы паставіла Гарадской управе дванаццаць закідаў. Сярод іх знайшлася і справа службовага падарожжа сябраў Гарадской рады ў Швецыю. У шведскае мястэчка Ванерсборг ездзілі чатыры члены Гарадской управы — справа гэтая набыла розгалас, калі выяўлены былі недакладнасці ў разліку грошай, якімі дэлегацыя аплаціла сваю пабыўку ў Швецыі. Аказалася, што нельга зафіксаваць у бухгалтэрыі прадстаўлены дэлегацыяй рахунак на 40 мільёнаў злотых. У Швецыю быў дасланы факс з мэтаю пацвердзіць сапраўднасць гэтай сумы. Пацвярджэння такога, аднак, не аказалася. Справа трапіла ў гайнаўскую пракуратуру. Гайнаўская пракурорка дэталяў следства не выявіла, а паколькі сама яна з'яўляецца раднай, то справу гэту перадала ў Беласток.

6 ліпеня гайнаўскія радныя пазнаёміліся таксама з паясненнямі бурмістра Мечыслава Гмітэра наконт працы Гарадской управы. Іншыя закіды Рэвізійнай камісіі датычылі няправільнага раздзелу пляцоў пад будову і гандлёвую дзейнасць, празмерна высокіх заробкаў сябраў Гарадской управы, браку кансультацый Гарадской управы з прафесійнымі саюзамі, браку інвестыцый у горадзе. Бурмістр, адказваючы на ўсе гэтыя пытанні заявіў, што адсутнасць інвестыцый у горадзе абумоўленая станам гарадскога бюджэту. Адносна іншых закідаў бурмістр палічыў, што ўсё адбывалася згодна з законамі, што гарадская ўправа ніколі не парушала існуючых правоў. Справы службовага падарожжа ў Швецыю бурмістр не каментаваў. Сказаў толькі, што ў гэтай справе нішто яшчэ не даказана.

Рэвізійная камісія на сесіі 6 ліпеня паставіла прапанову галасаваць за адкліканне Гарадской управы. Такое галасаванне адбылося. Парадак галасавання, трэба адзначыць, у найвышэйшай ступені забяспечваў інтарэсы сябраў Гарадской управы — для адклікання Управы патрабавалася абсалютная большыня галасоў ад статутнага ліку радных. Статутны лік радных у Гайнаўцы — 28. У сесіі прымала ўдзел 24 радных, галасы аддало 21, сапраўдных галасоў было 20. У выніку галасавання з Гарадской управы адкліканы былі тры асобы: Мечыслаў Гмітэр (15-цю галасамі), Яўгенія Марчук (17) і Фелікс Забельскі (18). Кіраванне Гарадской управы да часу выбару новага бурмістра радныя даручылі Мікалаю Несцеруку, які дагэтуль выконваў абавязкі намесніка бурмістра.

Пасля аб'явы вынікаў галасавання Мечыслаў Гмітэр заявіў, што такі спосаб правядзення галасавання не мае ніякіх юрыдычных наследдоўнасцяў. Заява гэтая нарабіла шуму ва ўсёй зале, а трэба тут адзначыць, што прыглядацца сесіі назыходзілася нямала гайнаўлян. „Адысці трэба з гонарам!", „Цяжка адарвацца ад свайго століка!" — чулася ў зале.

— Waleczność naszego burmistrza jest godna podziwu. Inny na jego miejscu dawno by się poddał, — пракаментавала адна з гайнаўскіх радных.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**P.S.** 8 ліпеня рашэннем гайнаўскага пракурора былы бурмістр быў арыштаваны, 12 ліпеня Гарадская рада выбрала новага шэфа Гарадской управы — Мікалая Несцерука.

## МЫ ВЫЙШЛІ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ

Пяць сваіх вялікіх дзён мелі беларусы ў ліпені гэтага года. Хаця замежныя сродкі масавай інфармацыі амаль не звярталі ўвагі на тое, што рабілася ў Менску ў днях 6—10 ліпеня, было гэта сапраўднае свята беларушчыны.

Каля тысячы прадстаўнікоў беларускіх асяроддзяў з цэлага свету, ад Аргенціны да Чукоткі, з'ехаліся на Бацькаўшчыну. Некаторыя не бачылі роднай зямлі звыш 50 гадоў, іншыя нарадзіліся на чужыне.

Першы з'езд беларусаў свету, арганізаваны Згуртаваннем беларусаў свету „Бацькаўшчына" і ўрадам Рэспублікі Беларусь, выклікаў з аднаго боку вялікае зацікаўленне замежных асяроддзяў, а з другога — небеспадстаўную падазронасць адносна мэтаў, якія паставілі сабе арганізатары. Апазіцыя, згуртаваная вакол Беларускага народнага фронту, ужо пару месяцаў таму назад заявіла, што з'езд гэты рыхтуецца наменклатурай з мэтай пераняць сімвалы ўлады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 1918 г. і такім чынам легітымізаваць сваё панаванне. Сем апазіцыйных партыяў рашылася тады арганізаваць III Усебеларускую палітычную канферэнцыю. Першая адбылася ў Чэшскай Празе ў 1921 г., пасля падпісання Рыжскага трактата, а яе ўдзельнікі заклікалі беларусаў да барацьбы з акупантамі Бацькаўшчыны. Другая адбылася ў Берліне ў 1925 г. У выніку інтрыг НКУС давяла яна да падзелаў сярод эміграцыі, да кампраметацыі гэтага асяроддзя і да адабрэння некаторымі нацыянальнымі дзеячамі савецкай рэчаіснасці ў Беларусі.

Цяжка сказаць, якія мэты ставілі сабе арганізатары III Усебеларускай палітычнай канферэнцыі, якая пачалася 2 дні раней І З'езда беларусаў свету. Паводле таго, што адбылася ў Тэатры імя Янкі Купалы, можна меркаваць, што апазіцыя, карыстаючыся прысутнасцю дзеячоў з замежжа, хацела прадставіць палітычную рэчаіснасць на Беларусі са свайго пункту гледжання і гэтым самым адпаведным спосабам „падрыхтаваць" гасцей да З'езда.

Зразумела, што некалькі соцень удзельнікаў канферэнцыі, з якіх большасць знайшлася там зусім выпадкова, не магла выпрацаваць ніякай сэнсоўнай думкі, якая мела б істотнае значэнне для Бацькаўшчыны. Палітычны фальклор дамінаваў зрэшты не толькі на канферэнцыі, але таксама і падчас З'езда. Істотная, аднак, была тут атмасфера. Такой дэманстрацыі беларускага патрыятызму Менск, здаецца, ніколі не бачыў. Паўсюдна чулася беларуская мова. Адраджэнне нацыі, мовы і культуры ўсе ўспрымалі як працэс, які немагчыма спыніць. Дэлегаты, асабліва падчас З'езда, расказвалі пра свае дасягненні ў змаганні за „Свабодную і Незалежную". Нават міністры пераадолелі самі сябе і гаварылі так, як быццам бы не чулі іншай мовы апрача беларускай.

Вяртаючыся да Канферэнцыі трэба адзначыць, што адбывалася яна ў вельмі напружанай атмасферы. У гэтым самым часе працавала сесія „Вярхоўнага Савета", дзе абмяркоўваліся важныя прабле-

☞ Працяг на стар. 4

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЕ

*... у газэце „Звязда” (19 чэрвеня г. г.) чытаю, што „гісторыку Міхасю Белямуку, які жыве ў Кліўлендзе (ЗША), Інстытут Гісторыі Беларускай Акадэміі навук надаў званне ганаровага члена інстытута” — за навуковую і грамадскую дзейнасць. Больш за тое, „Звязда” публікуе ягоны здымак пад рубрыкай „Беларус тыдня”.*

*А літаральна праз тры дні ў другой урадавай газэце — „Советской Белоруссии” (22 чэрвеня) — чытаю пра гэтага ж чалавека вялізны артыкул, у якім той самы Міхась Белямук характарызуецца выключна як „страшны чалавек”, „нелюдзь”, які „пошёл на службу к гитлеровским оккупантам” і нібыта забіваў людзей. (...) Чалавека абвінавачваюць у забойствах, але не прыводзяць ніводнага канкрэтнага факта...*

*(Свабода, н-р 7)*

Нехта слушна заўважыў, што плюралізм у адной галаве — гэта шызафрэнія. Ад сябе дадамо: асабліва калі гэтая галава — урадавая...

* * *

*Дума Славянского Собора „Белая Русь” направила Президенту Российской Федерации, Председателю Верховного Совета РФ, Председателю Верховного Совета Республики Беларусь и руководству телекомпании „Останкино” решительный протест против фальсификации событий, происходящих в Республике Беларусь (...) В то время, когда Верховный Совет республики проводит последовательную политику на установление тесных взаимовыгодных отношений с Российской Федерацией, говорится в заявлении, этой реалистической политике пытается противостоять группа русофобствующих этнорадикалов, так называемая „оппозиция” во главе с С. Шушкевичем.*

*(Вечерний Минск, н-р 138-139)*

Ах, як шкада, што „последовательному” Вярхоўнаму Савету не ўдалось-такі скінуць гэтых экстрэмісцкіх сілаў ды дэструктыўных элементаў, усіх гэтых „русофобов” на чале са спікерам! Ты ж глядзі, чаго тыя беларусы захацелі: „эканамічнай незалежнасці”, „мовы” і „адраджэння”! А як на гэта адрэагуе „старший русский брат”?..

* * *

*... на службе ў гітлераўцаў у чорнай форме — здраднікі Радзімы. Пад сцяг са свастыкай станавіліся ў большасці сваёй мясцовыя падонкі — бандыты, зладзеі і ўсялкія адшчапенцы. Яны праходзілі навучанне пачынаючы з таго, што вучыліся таму, як знішчаць людзей, рабіць аблавы і карныя аперацыі. Напрыклад, Я. Калубовіч у першы дзень акупацыі з радасцю сустрэў фашыстаў і паспяшаўся да іх на службу. Усе яны прымалі прысягу на вернасць фюрэру і вялікай Германіі. (...) Строй ваяк з Беларускай краёвай абароны абыходзіць кат нашага народа, генеральны камісар Беларусі, брыгадэнфюрэр СС Курт фон Готберг... А побач з ім (...) крочыць былы дзянікінскі афіцэр, тайны агент польскай дэфензівы ў г. Вільнюсе, памешчык, шпіён і ўрэшце — „прэзыдэнт” БЦР Р. Астроўскі.*

*А тыя, хто ім добра служыў, г. зн., хто больш за ўсё знішчаў мірных жыхароў, той атрымліваў узнагароды: кавалак мыла, цыгарэту, запалкі...*

*(Мінская праўда, н-р 78)*

Натуральна, тэрмін „агент польскай дэфензівы”, „памешчык”, „шпіён” дый увогуле — „прэзыдэнт БЦР” — сінонімы. Можна і дадаць: „кат беларускага народа”, „бандыт” і „здраднік Радзімы”. Але чаму беларускі афіцыйны друк ніколі не называў „агентамі Масквы”, „бандытамі” і „здраднікамі Радзімы” тых беларусаў, што пайшлі працаваць на рускіх бальшавікоў?..

* * *

Віктар Чыкін (сакратар ЦК Партыі камуністаў Беларусі):

*— Для С. Шушкевича прозвинел серьёзный „звонок”. Ему нужно подумать, изменить свою политику, т. к. в следующий раз может быть ещё серьёзней...*

*(Добры вечар, н-р 127)*

Так-та, шаноўны Станіслаў Станіслававіч, ведайце, да чыіх парад трэба прыслухоўвацца, дый увогуле — хто ў беларускай хаце гаспадар!

* * *

*У Навагрудку напярэдадні прыезду прэзыдэнта Польшчы Леха Валэнсы паклалі новы асфальт...*

*(Пагоня, н-р 33)*

Жыхары Навагрудка, безумоўна, вельмі ўдзячныя. Думаецца, цяпер візіту Валэнсы з нецярпеннем чакаюць жыхары і іншых беларускіх гарадоў.

* * *

*Можа, сапраўды маюць рацыю тыя, хто прапаноўвае ў якасці беларускага гімна паланез Агінскага „Развітанне з Радзімай”?..*

*(ЛіМ, н-р 27)*

Прапануем свой варыянт гімна суверэннай Беларусі — улюбёную песню расейскіх крымінальнікаў „Мурка” (польскі аналаг — „Czarna Mańka”). А чаму не? І народ у былой БССР зрусіфікаваны, і светапогляд як з „Czarnej Mańki”, і эканоміка крыміналізаваная...

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

13 ліпеня г.г. амаль пасля месяца сустрэчаў і доўгіх перамоваў быў створаны **Выбарчы камітэт праваслаўных.** Ствараюць яго Праваслаўнае брацтва, Беларускі саюз у Рэчыпаспалітай, Беларускае грамадска-культурнае таварыства, Згуртаванне „Русь” і Саюз украінцаў Падляшша. Камітэт узгадніў спісак кандыдатаў у Сейм і кандыдата ў Сенат — **Алега Латышонка.** Ад Праваслаўнага брацтва ў кандыдаты пастаўлены **Антон Мірановіч, Мікалай Ваўранюк, Лявон Ярмоцюк,** ад Беларускага саюза — **Сяргей Лукашук, Пятро Крук, Пятро Багроўскі,** ад БГКТ — **Ян Сычэўскі і Пятро Прышчэпка,** ад „Русі” — **Мікалай Валіцкі** і ад Саюза ўкраінцаў — **Юры Ігнацюк, Мікалай Рошчанка** і **Багдан Мартынюк.**

**Унія рэальнай палітыкі** — партыя, якой лідэруе **Януш Корвін-Міккэ,** — лічыць, што звальненне камітэтаў нацыянальных меншасцяў ад абавязку перадольвання выбарчых лімітаў пярэчыць канстытуцыйнаму прынцыпу раўнапраўнасці грамадзян і ў сувязі з гэтым накіравала пратэст у Вярхоўны суд. Нагадаем, што палажэнне аб выбарах прадугледжвае для зарэгістраваных арганізацый нацыянальных меншасцяў звальненні (да выбару):

— ад абавязку перадольвання 5-працэнтнага ліміту ў акругах (яно карыснейшае для меншасцяў, кандыдаты якіх маюць шанцы на перамогу ў сваіх акругах, але маглі б не атрымаць 5 прац. галасоў ва ўсёй краіне);

— ад абавязку перадольвання 7-працэнтнага ліміту пры раздзеле мандатаў з агульнапольскіх спісаў (карыснае для меншасцяў рассеяных па ўсёй Польшчы, кандыдаты якіх не маюць шанцаў на перамогу ў акрузе).

**У васьмі гарнізонах** і мясцовасцях у Польшчы прабывае яшчэ 1500 расейскіх салдат разам з 3000 членаў іх сем'яў і цывільных супрацоўнікаў — праінфармаваў ген. **Здзіслаў Астроўскі,** упаўнаважаны ўрада РП па справах прабывання расейскіх войскаў у Польшчы. У чэрвені г.г. расейскія войскі цалкам пакінулі гарнізоны ў Любліне, Вроцлаве і Вульцы-Калускай. Цяпер на тэрыторыі Польшчы расейскія салдаты прабываюць у гарнізонах у Легніцы, Варшаве і Рашоўцы, а таксама на ваенных інспекцыйных пастарунках у Збаншынку, Познані, Кутне, Седльцах і Чаромсе. У іх распараджэнні знаходзяцца, між іншым, тры самалёты і верталёт. Пасля заканчэння вайны ў Польшчы, у 59 мясцовасцях пастаянна прабывала 60 тысяч салдат СССР.

**Аддзел арганізацыі „Wspólnota Polska” ў Беластоку** ладзіла ў чэрвені летні адпачынак для звыш 200 юных палякаў з Беларусі і Літвы. Спонсары гэтай акцыі — перш за ўсё прыватныя асобы, якія з увагі на свае крэсовыя сантыменты хочуць дапамагаць палякам на Усходзе. Прыхільнікі „Wspólnoty Polskiej” на першы план ставяць дапамогу ў галіне адукацыі, азнаямлення з польскай культурай і навучання польскай мове.

**Каменданцкі час для „цыганоў** і іншых падазроных асоб” устанавіў бурмістр славацкага горада Спіскэ Подград'і. Такім чынам гарадскія ўлады намерваюцца „змагацца са злачыннасцю”. У гадзінах 23.00 — 4.30 часткі насельніцтва мястэчка на ўсход ад Паправа нельга паказвацца на вуліцы. Віцэ-прэм'ер Славакіі **Раман Ковач** папрасіў бурмістра **Францішка Слябодніка** адмяніць сваё рашэнне, але той адмовіў. „Цыганам усё можна, а паліцыі — нічога. Цыганы спяць днём, а ноччу крадуць”, — паясніў бурмістр.

**Больш за тысячу цыганоў** дэманстравала ў венгерскім горадзе Эгер на поўначы краіны супраць расізму і фашызму. У Венгрыі жыве амаль паўмільёна цыганоў і яны — самая вялікая нацыянальная меншасць у гэтай краіне. Іх правадыры наракаюць, што ў апошнім часе цыганы становяцца аб'ектам нападаў з боку венгерскіх скінаў. Эгер лічыцца цвярдыняй скінаў і правых груповак.

**Трое членаў экіпажа** беларускага таварнага цягніка, якія імкнуліся прадаць навакольным сялянам дызельнае паліва са свайго лакаматыва, затрымалі супрацоўнікі Гранічнай стражы ў Цісоўцы. Прадпрымальныя чыгуначнікі былі адасланыя ў Беларусь, а 80 літраў дызпаліва вартасцю ў 580 тысяч зл. перададзена мытнікам.

**У мінчанкі Святланы М.,** якая гандлявала на беластоцкім базары, паліцыя выявіла 57 бутэлек алкагольных вырабаў і... 117 штук патронаў калібру 5,45 мм да навейшага тыпу аўтамата „Калашнікаў”. Змілітарызаваная турыстка атрымала ў пашпарт адміністрацыйную візу, паводле якой трэба неадкладна пакінуць тэрыторыю Польшчы, а матэрыялы следства перададзеныя беларускай пракуратуры.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- Беларускія фестывалі і фестыны на Беласточчыне.
- Палітыка — гульня для багатых.
- У Бельску хацелі памяняць дырэктараў.
- Прэзідэнт Валэнса адкрыў для сябе Беларусь.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### „НА ГЭТАЙ ЗЯМЕЛЬЦЫ ЎСЕ МЫ НЕ ГОСЦІ”

1200 беларусаў — прадстаўнікоў 23 краін адгукнуліся на кліч Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына” прыняць удзел у вялікім сходзе на Беларусі.

Самыя шматлікія арганізацыі прыехалі на першы з'езд беларусаў свету з ЗША — 108 чалавек, Расіі — 98, Польшчы — 72.

Адкрываючы з'езд ад імя аргкамітэта, прэзідэнт „Бацькаўшчыны”, народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў падкрэсліў, што „аптымальны сацыяльна-палітычны лад можа быць збудаваны толькі агульнымі намаганнямі, толькі высілкамі ўсёй нацыі — як метраполіі, так і дыяспары. Нават без аднаго чалавека нацыя няпоўная”.

Відавочнай падтрымкай у такі нялёгкі для старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі час выглядала павітальная авацыя, якой сустрэлі яго паяўленне на трыбуне суайчыннікі-ўдзельнікі з'езда. На беларускую шчырасць супольнасці Станіслаў Шушкевіч адказаў расчуленым прызнаннем, што не спадзяваўся пабачыць такі адкрыты сход беларусаў на роднай зямельцы пры сваім жыцці.

З прывітаннем выступілі таксама старшыня ТБМ імя Францыска Скарыны Ніл Гілевіч і прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі, ад урада рэспублікі выступіў намеснік старшыні Савета Міністраў Міхал Дзямчук. Выступілі рэдактар газеты „Беларус” з Нью-Йорка Янка Запруднік ды старшыня Рады „Бацькаўшчыны” Яўген Лецка.

Нягледзячы на змрочныя прагнозы, накіраваныя на зрыў з'езда і кампраметацыю суайчыннікаў, запрошаных у якасці гасцей і дэлегатаў на Беларусь, публікацый у газетах „Советская Белоруссия” і „Правда”, тры дні работы з'езда сталі днямі грунтоўнага абмеркавання самых балючых праблем дзяржаўнага, эканамічнага, нацыянальнага будаўніцтва на Беларусі. Многія з яго ўдзельнікаў пабывалі на ўрачыстасцях, прысвечаных юбілейным гістарычным датам старажытнага Нясвіжа, ці ў Навагрудку, дзе адзначалася гадавіна каранавання князя Міндоўга, паказалі свае творы на выстаўцы, якая адкрылася напярэдадні з'езда беларусаў свету ў Дзяржаўным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

### ПАДТРЫМАННЕ ШУШКЕВІЧА

У той час, калі на працягу трох дзён пракамуністычная большасць беларускага парламента настойліва імкнулася адхіліць ад пасады старшыню Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча, разам з апазіцыяй БНФ і дэмакратычным клубам, якія прадэманстравалі пратэст супраць камуністычнага перавароту адмовай нават браць бюлетэні, у абарону спікера паўсталі жыхары Беларусі.

Вялікая колькасць лістоў і тэлеграм сведчаць пра тое, што і талерантны беларус здольны паўстаць супроць шалёнай атакі на старшыню ВС, паміж якой і адстаўкай узятага ім курсу на дэмакратычныя пераўтварэнні ў беларускім грамадстве многія ставяць знак роўнасці.

Дарэчы, і падчас сацыялагічнага апытання насельніцтва Беларусі, праведзенага Беларускай службай „Грамадская думка” за давер да Станіслава Шушкевіча выказалася 42,9 працэнта рэспандэнтаў, за недавер — 25,9. Яшчэ 31,2 працэнта рэспандэнтаў з апытаных 1435 чалавек не вызначылі сваёй пазіцыі наконт гэтага.

### САМАЕ НЯЎСТОЙЛІВАЕ КРЭСЛА — У СТАРШЫНІ

У чарговы раз старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч не прыняў „умоў гульні”, прапанаваных яму апазіцыяй — ён згадзіўся, што пытанне аб рэферэндуме па праблеме далучэння Беларусі да дагавору аб калектыўнай бяспецы краін СНД будзе разгледжана падчас абмеркавання Вярхоўным Саветам пытання аб правядзенні рэферэндуму аб асноўных палажэннях новай канстытуцыі.

Такім чынам старшыня яшчэ раз пацвердзіў сваю схільнасць да прынцыпу згоды і паразумення. Многія назіральнікі схіляюцца да думкі, што пытанне аб адкліканні старшыні паўстане зноў на зыходзе лета ці на пачатку восені. Нават самыя гарачыя прыхільнікі Станіслава Шушкевіча прызнаюць, што без падтрымкі колькі-небудзь значнай часткі парламента і „сваіх людзей” ва ўрадзе ён, на жаль, асуджаны на паражэнне.

### КАМУ НА БЕЛАРУСІ ДОБРА ЖЫЦЬ?

Па звестках аддзелаў сталіцы, якія займаюцца падаткаабкладаннем прадпрымальнікаў, у Ленінскім раёне пражываюць 53 прадпрымальнікі з чыстым даходам да 30 мільёнаў рублёў. У Заводскім — 44 прадпрымальнікі з чыстым даходам больш аднаго мільёна рублёў. А ў аднаго жыхара гэтага раёна даход складае 145 мільёнаў рублёў.

Між іншым, мінімальны заробак на Беларусі застаецца ранейшым — 6600 рублёў у месяц.

### МЫ ЕХАЛІ, ЕХАЛІ...

Звычайная ўязная віза на Беларусь жыхарам Латвіі з нядаўніх часоў будзе каштаваць 10 долараў ЗША, транзітам — 5, шматразовая — 50.

Больш пашанцавала жыхарам Эстоніі — для іх тарыфы адпаведна 3, 2 і 10 долараў. Аматарам хуткатэрміновага атрымання віз пагражаюць падвойныя плацяжы.

### „МАГУТНЫ БОЖА”

Упершыню ў сусветнай гісторыі міжнародны фестываль духоўнай музыкі ўсіх хрысціянскіх канфесій „Магутны Божа” будзе ладзіцца ў Магілёве.

Матэрыяльная дапамога на правядзенне фестывалю выдзелена Польшчай, Германіяй, Італіяй, Францыяй і Вялікабрытаніяй. Яго асноўная мэта — духоўнае адраджэнне чалавека, збліжэнне хрысціянскіх канфесій.

МІКОЛА ДЗЯБЁЛА




Калі я прачытала IV частку „Панарамы Чыжоўскай гміны" („Ніва" н-р 27) здорава засмяялася. А рассмяшыў мяне менавіта сэнс апошніх двух сказаў. Як аўтар высока цэніць сваю творчасць! Калі б не ягоная „Панарама...", дык і тая „адна настаўніца", пэўна, і не падумала б падпісацца на ваш тыднёвік.

Паважаная Рэдакцыя, знайце чые артыкулы друкаваць, каб пабольшыць тыраж свайго тыднёвіка.

Шаноўны Спадар Я. Цялушэцкі, прыміце да ведама, калі ласка, што гэтая „адна настаўніца" з'яўляецца чытачом „Нівы" ўжо звыш 25 гадоў, а не „... менавіта тады, калі ў „Ніве" пачалі друкаваць...". Гартала я тыднёвік і тады, калі падпісвалі звычайна на пошце, і тады, калі трэба было самой даставаць, і цяпер, калі зноў ёсць магчымасць падпіскі. Хачу яшчэ толькі дабавіць, што чытаю артыкулы, якія друкуюцца ў беларускіх часопісах з вялікай увагай, усіх аўтараў і на розныя тэмы.

Н.А.
*(імя і прозвішча да ведама рэдакцыі)*

## КОЛЬКІ ЗУБРОЎ?

Нядаўна выйшла з друку чарговая „Радаслоўная зубрыная кніжка" (Księga Rodowodowa Żubrów), якая ўлічвае матэрыял з усяго свету за 1987—1991 гады. Рэдакцыя гэтага важнага для зубрагадавальнікаў выдання два гады таму вярнулася з Варшавы ў Белавежу. Змяніўся і склад рэдакцыі. Цяпер рэдактарам стаў д-р Ян Рачынскі, што жыве і працуе ў Беластоку, а сакратаром мгр. інж. Малгажата Болбат з Гайнаўкі. Магчыма паскорыць гэта апрацоўку і выхад чарговых выпускаў, дзеля больш актуальнай інфармацыі.

З новай кніжкі можна даведацца, што ў канцы 1991 г. на свеце жыло 3.407 зуброў. Найбольш у былым СССР — 1.425 штук, затым у Нямеччыне — 532, Польшчы — 502, Балгарыі — 148, ЗША і Швецыі — па 103, Францыі — 58 і Вялікабрытаніі — 57. Зубры жывуць у 32 краінах свету. Іх можна ўбачыць і ў такіх экзатычных для нас краінах, як Інданезія, Карэя, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, Калумбія і Бразілія.

П. БАЙКО

# Я АД ІХ НІЧОГА НЕ ХАЧУ

Калі на Беласточчыне гавораць пра зямлю, найчасцей паўтараецца праблема аблагоў, апусцелых вёсак і безнадзейнасці. Жыццё пацвярджае аднак стары тэзіс, што нельга нічога абагульняць. Аказваецца, што і на нашай тэрыторыі ёсць вёскі, у якіх людзі яшчэ змагаюцца за зямлю і што яна можа быць належна выкарыстана.

Аднойчы ў рэдакцыю „Нівы" зайшоў чалавек, па твару якога было відаць, што ён нечым прыгнечаны. Выняў ён папку з дакументамі і спытаў, ці можна дзесьці цяпер дамагчыся справядлівасці. Паглядзеў я гэтыя дакументы — кожны з некалькімі пячаткамі і кожны напісаны нейкім чыноўніцкім слэнгам, які можна зразумець пасля трэцяга ці чацвёртага чытання.

Аляксандр Матвяйчук з жонкай Аннай гаспадарыць на 5 гектарах зямлі. Жыве ў вёсцы Чараўкі, што ў гміне Юхнавец. Гаспадар з яго не абы-які, умее выбраць адпаведную спецыялізацыю, якая ў дадзены момант дае найбольшы прыбытак. Калісьці гадаваў гусей, але сёння гэтая прадукцыя зусім не аплачваецца. Таму ў пэўны час спадар Матвяйчук пачаў займацца гадоўляй коней. Мае цяпер іх 6 штук, у тым ліку 3 жарэбныя кабылы. Апрача коней трымае таксама 5 кароў. Нямалы прыбытак дае таксама плантацыя парэчак. У мінулым годзе спадар Матвяйчук прадаў іх звыш 6 тонаў.

Але ў чым яго праблема? А менавіта ў тым, што ў 1980 г. была праведзена ў гміне Юхнавец першая ліквідацыя цераспалосіцы (scalenie gruntów). Забралі тады ў яго 2 гектары добрай зямлі і далі 2, але ў іншым месцы. Тады гмінны геадэзіст недакладна размераў гэты зямельны ўчастак і Аляксандр Матвяйчук атрымаў на 6 араў больш, чым павінен. На гэтым кавалку была менавіта закладзена плантацыя парэчак. На тых 6 сотках, якія загаспадарыў несвядома Матвяйчук змясцілася каля ста кустоў парэчкі.

У 1992 г. была праведзеная ў гміне другая ліквідацыя цераспалосіцы і высветліліся недакладнасці памераў ад 1980 г. Хаця Матвяйчук хацеў купіць той кавалак, нават з суседняй дзялянкай у Дзяржаўным фондзе зямлі, аднак ураднікі ад гміннай да ваяводскай інстанцый, рашылі інакш: аддалі гэтую зямлю суседзям Матвяйчука — Сідарчукам. Агульнавядома, што на нашай вёсцы сяброўства паміж суседзямі рэдка здараецца. Па загаду ваяводскіх улад Аляксандр Матвяйчук вымушаны высечы ўсе парэчкі, якія знайшліся на зямлі, прызначанай суседзям.

У час мінулагодняй ліквідацыі цераспалосіцы гмінныя ўраднікі вырашылі таксама забраць 30 сотак жонцы Матвяйчука Анне, якая атрымала яе ададушы сваю гаспадарку з папярэдняга сужонства за рэнту ў 1985 г. Дзялянку Анны атрымаў гмінны райца за сімвалічную аплату. Жончыную зямлю хацеў таксама купіць Аляксандр Матвяйчук, але, відаць, не меў такіх аргументаў, як райца. Спадарыні Анне, хаця яна інвалідка, далі ўчастак зямлі ў чужой вёсцы, 3 кіламетры ад хаты.

Аляксандр Матвяйчук гаворыць так: „Я ад іх — уладаў — нічога не хацеў бы, нават рэнты на старасць, сам на сябе зараблю, няхай толькі дадуць магчымасць спакойна працаваць. Час, які я павінен выкарыстаць на працу ў гаспадарцы, трачу, ходзячы ад урадніка да ўрадніка. За камуністаў на працягу пару гадоў не мог дамагчыся хаця б коннай грабілкі да сена, а пра трактар не было нават размовы. Аб усім рашала гмінная кліка. Цяпер найчасцей тыя ж самыя людзі паводзяць сябе так, як і раней і толькі, калі перасталі дзяліць між сялян трактары, прыдумалі дзяліць зямлю паводле прынцыпаў, якія звычайнаму чалавеку зразумець амаль немагчыма".

Справа спадара Матвяйчука дайшла да Вярхоўнага адміністрацыйнага суда ў Варшаве. Невядома, якія будуць яго рашэнні, вядома толькі, што патрачанага часу і нерваў гаспадару ніхто не верне.

ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ

## ...АЛЕ Я НЕ ДАНОСЧЫК

Хачу некалькі слоў сказаць наконт артыкула Грышы Мароза „Слова абвінавачанаму" („Ніва" н-р 22). Аўтар успамінае размову са мною, якая адбылася пры канцы 80-х гадоў у Рудцы. Не буду тут успамінаць пра вясковую знахарку, да якой, згадаю, прыехаў Г. Мароз, бо гэта не мая справа. Магчыма, што падчас тае сустрэчы я мог нешта сказаць непрыхільнага на тадышняе кіраўніцтва „Нівы", але помню, што Г. Мароз мне тады не пярэчыў і згаджаўся з маімі поглядамі. Нас было толькі двух і ніхто больш не чуў гэтай размовы. І вось паважаны Г. Мароз усё вывернуў дагары нагамі і напісаў, што я публічна пляваў на „Ніву". І дзе тут праўда? Выказванні Ул. Хіліманюка і С. Мруга — доказ на тое, што я ніколі публічна і нічога дрэннага на наш тыднёвік не гаварыў.

Як кажуць, і для цара дулі соваюць, трымаючы аднак руку ў кішэні. Ці Вы, паважаны Грыша, мусілі пісаць у „Ніву" пра нашую прыватную размову, да якой дабавілі яшчэ нешта ад сябе, чаго я не сказаў? Вы гаворыце, што Вы не камуніст, але так паводзіце сябе вучылі менавіта камуністы, каб не было еднасці паміж людзьмі, каб адзін другога падазраваў, тады лягчэй было імі кіраваць. Вы можа і не былі членам партыі, але паводзіце сябе як тыповы чалавек выхаваны ў камуністычнай сістэме. Можаце мяне ацэньваць па-рознаму, але я ніколі і нікому не падкінуў такой жабы. Гэта могуць пацвердзіць усе людзі, якія мяне ведаюць лепш за Вас.

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК

# БЕЛАСТОЦКІЯ СПІРТАНОШЫ

*Працяг са стар. 1*

можа, і пасадзяць у турму — хто іх тут ведае ў гэтай Польшчы... Але ўсё прайшло нечакана добра: маладыя кантрабандысты з чыстым сумленнем прадэманстравалі „законныя" пляшку „Пшанічнай" і блок цыгарэт, а маладая пані мытніца, глянуўшы на мае кніжкі і ўсяго адну толькі пляшку „Белавежскай", грэбліва ўсміхнулася і не стала ацяжарваць вагон сваёй прысутнасцю. Праўда, без улову паны мытнікі не засталіся — у адной прафесійнай савецкай гандляркі знайшлі-такі некалькі пляшак „раяльнай" атруты, і пацягнулі небараку з вагона — можа акт складаць, а можа і расстрэльваць — прынамсі, менавіта так можна было меркаваць па выглядзе гандляркі...

Цягнік рушыў далей, я аддаў удзячнаму Т. пляшку спірту і, запаліўшы шляхотную цыгарэту, якой ён мяне пачаставаў, паспрабаваў было распытаць пра таямніцы яго цікавай і рызыкоўнай прафесіі.

„Думаеш, цягацца па два разы на тыдзень да вас надта прыемна? — сказаў мне мой новы знаёмы. — То не з добрага жыцця, то з мусу. Мяркуй сам: бацькі ў нас няма, маці мае рэнту каля мільёна, а яшчэ маю малую сястру. Сам я скончыў тэхнікум, але працы знайсці не магу. А я ж малады — і апрануцца хочацца, і купіць што-небудзь, і з дзяўчынай кудысьці пайсці. А самае галоўнае тое, што я — адзіны карміляц". „Ну, і колькі ты маеш на месяц, калі не сакрэт?" — запытаўся я ў карміляца. „Калі ўсё добра выходзіць — мільёнаў дзесяць-дванаццаць. Але нашыя цэльнікі, курча, зусім пашалелі — раней хоць людзі не адвінчвалі, а цяпер могуць і гэта". Далей Т. распавёў мне жудасную гісторыю пра нейкага польскага мытніка, які наводзіць жах на ўсю беластоцкую акругу — сакольскія і беластоцкія спіртаношы проста стогнуць з яго. „Дарэчы, як мытня ў Гродне?" — пацікавіўся я. Хлопец іранічна ўсміхнуўся: „Фаёва. Там усё куплена */". „Ну і што, усё жыццё збіраешся гэтым займацца?" — пацікавіўся я зноў. Хлопец адмоўна хіснуў галавой: „Не. Вось скаплю грошай і паеду на Захад, можа, уладкуюся дзе. Працы тут усё адно не будзе. Каму мы патрэбныя? А жыць на дапамогу я не хачу."

Неўзабаве цягнік пад'ехаў да Саколкі, дзе хлопец меўся выходзіць. Я дапамог яму апрануць на плечы рукзак і пажадаў шчаслівага гандлю.

А ведаеце што? Хлопец мне той спадабаўся. Так, я разумею, што „Раяль" — сапраўдная атрута (асабліва ў вялікай колькасці), і што польскі ўрад прыняў цалкам слушны закон аб мытным кантролі, і што тыя, хто жывуць у гэтай дзяржаве, абавязаны ўсе законы гэтай дзяржавы выконваць. Але згадзіцеся! — значна прыстойней зарабіць грошы хоць бы і такой працай, чым лайдачыць, жывучы на дапамогу па беспрацоўю.

Тым больш, што праца гэтая, хаця і пазбаўлена кніжнай ды кінематаграфічнай рамантыкі, але таксама мае свае цяжкасці ды неспадзяванкі.

УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА,
МЕНСК — БЕЛАСТОК

-----------------

*/ Каб не быць абвінавачаным у інсінуацыях на адрас шаноўнай гродзенскай установы, пакідаю гэтае выказванне на сумленні майго суразмоўцы.

## ВЯСКОВАЕ СВЯТА

Хутка і на нашай вуліцы будзе свята і то вялікае, якога ад вякоў ніхто не бачыў! Спытаеце — з якой нагоды? З нагоды адкрыцця новага клуба. Наша вёска была неяк пакрыўджаная. Калі ў іншых навакольных мясцовасцях нешта робіцца, то ў нас заўсёды ўсё пакідаецца напаследак. Таму, відаць, яна і называецца Стараберазова. Калі інакш падумаць, дык можа так яно і лепш для нас? Бо калі нешта ўрэшце зробяць для нас, тады ўжо яно і больш адпаведнае і маднейшае. Таксама і з клубам выйшла. Навокал усе вёскі даўно маюць старыя клубы і святліцы, а нам толькі што новы адкрыюць. Праўда, клуб прыгожы, прасторны. Нават такі вялікі горад, як Беласток не саромеўся б яго. А пачалося ўсё яшчэ пры гэтай праклятай камуне. Хтосьці запланаваў, нехта зацвердзіў, ну і пачалася калатня: пачыны, пачыны, — усё грамадскім пачынам. Знайшліся адданыя справе людзі, пацягнулі другіх і так работа разгарнулася. Памалу зрабілі падмуркі. Вялікую дапамогу аказала гмінная пажарная ахова з Гайнаўкі. І трэба тут успомніць нашага аднавяскоўца Ваню Петручука, працаўніка гміннай пажарнай аховы, якому не далялося ўбачыць свой клуб-„рамізу". Няхай зямля яму лёгкай будзе!

Аж тут раптам у краіне закруціла, замяло ды рухнула пануючая сістэма. Здавалася, што нашым працам будзе канец. Адышла аджыўшая камуна, уступілі ў новае, невядомае. Пачалі памалу прыжывацца да новай улады, новых парадкаў. Баяліся, што будову клуба не дакончым, бо краіна бедная, каса пустая, а людзі пачынаў па горла маюць, што нам па мінулым толькі падмуркі астануцца, а гурба будаўнічых матэрыялаў, якіх з часам паменшае, зарасце пустазеллем. Не адзін стараберазовец так думаў. Так магло і здарыцца, мог такі „помнік мінуўшчыны" астацца ў нас. Выйшла зусім інакш. А гэта дзякуючы Гміннай управе і яе войту. Клуб наш сталі будаваць далей і то ўжо без грамадскіх пачынаў. Так будуецца не толькі наш клуб — няма такой вёсачкі ў Гайнаўскай гміне, дзе б штосьці не рабілася. Пабудавалі ўрэшце прыгожы будынак, бляхаю пакрылі. Усё фінансуе Гмінная ўправа. Хтосьці запытае: адкуль грошы? Войт гміны не сядзіць паклаўшы рук, і дзе толькі даецца, там шукае. І грошы знаходзяцца. Відаць, усё можна адолець, абы была ахвота і ўпартасць. Асталося яшчэ толькі памаляваць, пачысціць і адкрыць новы клуб для сялян нашай вёскі. Важнае яшчэ, каб адпаведны момант дзеля гэтага падабраць. Даўней з гэтым было вельмі проста. На такую нагоду было поўна розных святаў. Цяпер інакш будзе. Зробім нашае, вясковае свята, — нас усіх, і тых, хто працаваў і дапамагаў, і тых, хто хаваўся па кутках ды ў кулак хіхікаў. Калі адкрыецца клуб, можа і да нас завітае якісьці беларускі калектыў, а можа расейскі або ўкраінскі. Усім будзем рады. Хопіць слухаць іх па радыё! Цяпер у нас месца ёсць і гледачоў не забракне.

ГРЫША МАРОЗ

# САБРАЛІСЯ БЕЛАРУСЫ

Першы З'езд беларусаў свету прайшоў у Менску ў днях 8—10 ліпеня. Галоўным яго арганізатарам было Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына". Падтрымку — у тым вельмі істотную фінансавую — аказаў урад Рэспублікі Беларусь. З гэтае прычыны ад удзелу ў падрыхтоўцы З'езда адмовіўся Беларускі народны фронт.

Перад замежнымі беларусамі, перад эміграцыяй паўстала пытанне: ехаць у Менск ці не? Пачаць супрацоўніцтва з былымі камуністамі, якія цэлымі дзесяцігоддзямі лічылі эмігрантаў здраднікамі, фашыстамі (але ўсё-ткі легальнымі ўладамі сусветна прызнанай РБ), ці маральна падтрымаць дэмакратычную апазіцыю, адмаўляючыся ад кантактаў з цяперашнім урадам? Асабліва драматычны выбар чакаў тых, для каго была гэта першая пасля 50 гадоў магчымасць сустрэчы з радзімай.

Нягледзячы на перакананні і палітычныя сімпатыі, беларусы на З'езд прыехалі. Ужо 7 ліпеня — як паведамлялася на прэс-канферэнцыі — у гатэлі „Беларусь" было зарэгістраваных каля 900 удзельнікаў З'езда (уключна з грамадзянамі Беларусі з-па-за Менска). Гэта прыблізна на дзве сотні больш, чым спадзяваліся самі арганізатары.

Найбольш беларусаў прыехала з Расеі, ЗША, Польшчы (91 асоба напярэдадні пленарных пасяджэнняў), краін Балтыі. Апрача таго: з Казахстана, Украіны, Малдовы, Вялікабрытаніі, Нямеччыны, Аўстраліі ды Паўднёвай Амерыкі.

Урачыстае адкрыццё З'езда мела месца ў 10 гадзін 8 ліпеня ў Тэатры оперы і балета. Усе месцы ў зале, уключна з двума паверхамі балконаў, былі занятыя. Адкрыў З'езд вядомы пісьменнік і вялікі маральны аўтарытэт у Беларусі Васіль Быкаў. У сваім выступленні не шкадаваў ён вострых слоў, як у адрас сённяшніх улад краіны, так і пра нас саміх, пра нашу нацыю. „Шлях да сапраўды незалежнай і цывілізаванай айчыны — яшчэ наперадзе", — гаварыў ён.

Пасля Васіля Быкава да сабраных гасцей звярнуўся Станіслаў Шушкевіч, які падкрэсліваў, што станаўленне Рэспублікі праходзіць мірным шляхам. Старшыня Вярхоўнага Савета казаў: „Мы мусім шанаваць розныя погляды, розныя грамадскія пазіцыі, каб працягваць той працэс, які запачаткавалі тры гады таму, абвяшчаючы суверэнітэт Беларусі".

Пасля выбару рабочых органаў З'езда і паведамлення пра парадак яго правядзення, з уступнымі дакладамі выступілі акадэмік Радзім Гарэцкі і віцэ-прэм'ер Міхал Дзямчук. Першы з іх гаварыў пра развіццё беларускай нацыянальнай ідэі ад сярэдневякоўя да нашых дзён, а другі — пра эканоміку Рэспублікі Беларусь. У гэты ж дзень даклад „Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" на цярністым шляху яднання беларусаў свету" прачытаў старшыня Рады гэтай арганізацыі Яўген Лецка. З прывітальнымі словамі выступалі таксама шматлікія госці, якім на выступленне адводзілася не болей чым 7—10 хвілін.

Першы дзень З'езда закончыўся ўрачыстым канцэртам. На другі дзень дэлегаты працавалі ў спецыяльных групах, але пра гэта ўжо напішуць праз тыдзень мае калегі.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# МЫ ВЫЙШЛІ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ

☛ *Працяг са стар. 1*

мы для беларускай дзяржаўнасці, між іншым, пытанне рэферэндуму ў справе беларуска-расейскага ваеннага пагаднення. Дэпутаты ад БНФ маглі быць прысутнымі на канферэнцыі толькі падчас перапынкаў у пасяджэнні „Вярхоўнага Савета".

Адкрываючы Канферэнцыю намеснік старшыні БНФ Юры Хадыка паінфармаваў, што арганізатары запрасілі да ўдзелу ў яе працах толькі беларускія дэмакратычныя арганізацыі. Васіль Быкаў, вітаючы гасцей і дэлегатаў, звярнуў увагу, што на Беларусі, таксама як і ва ўсіх посткамуністычных дзяржавах, актывізуюцца рэакцыйныя сілы. Былая партыйная наменклатура спасылаецца на лозунгі абароны правоў чалавека, забыўшыся, што калі сама была пры ўладзе, пастаянна іх парушала. Тая ж наменклатура страшыць „карабахамі" і паказвае перспектыву вяртання таннай каўбасы, разлічвае перш за ўсё на люмпен-пралетарскія асяроддзі.

Анатоль Сідарэвіч вярнуўся ў сваім дакладзе да 20-х гадоў нашага стагоддзя, ацаніў дзве першыя канферэнцыі і заўважыў, што ў той час беларускія камуністы пераймалі амаль усе нацыянальныя лозунгі дэмакратычных партыяў і спрабавалі іх увесці ў штодзённы ўжытак. Расейскія таварышы, якія перш за ўсё хацелі ўтрымаць імперыю, ніколі ім гэтага не забылі. Як першых паслалі іх у турмы і аддалі ў рукі чэкістаў.

Цэлая беларуская эміграцыя 20-х гадоў была сацыялістычных арыентацыяў. Толькі ў трыццатых гадах, пад уплывам бальшавіцкай палітыкі, некаторыя памянялі свае погляды.

Янка Запруднік з ЗША выявіў, што найважнейшае для беларускай эміграцыі. Перш за ўсё — гэта праблема стаўлення да кіруючага дзяржавай урада: супрацоўнічаць з посткамуністычнымі міністрамі ці з тымі, што іх крытыкуюць? Які спосаб захавання будзе лепшы для Беларусі і эміграцыі? Спадар Запруднік сказаў, што іншага выйсця няма. Беларусі пакуль што можна дапамагчы, падтрымоўваючы сувязі з існуючым урадам.

Лідэр БНФ Зянон Пазняк прыпомніў, што над парламентам Беларусі вісіць бел-чырвона-белы сцяг, аднак у гэтым будынку амаль няма людзей, якія гавораць на беларускай мове, ёсць нават такія, што яе не разумеюць. У Польшчы, напрыклад, — гаварыў Пазняк ні камуністам, ні тым больш фашыстам ніколі не прыйшло да галавы ставіць прапанову ліквідацыі свае дзяржаўнасці. На Беларусі больш чым палова „народных дэпутатаў" адкрыта дамагаецца далучэння Бацькаўшчыны да Расеі. Гэтая большасць падтрымоўвае ўрад Кебіча, які — паводле лідэра БНФ — вядзе антыбеларускую палітыку. У апошніх гадах толькі адзін працэнт кніжак, якія выдаюцца на Беларусі, друкуюцца на роднай мове. Нават у апошніх гадах існавання БССР друкавалася іх звыш 4%. Замест беларускай арміі, — прадаўжаў Пазняк, — тут закансерваваны расейскія ўзброеныя сілы, а беларускіх афіцэраў пазбаўляюць працы.

Алег Трусаў — старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады ў сваім выступленні заўважыў, што ў гісторыі беларусаў найчасцей бывала так, што кожны мог нас падзяліць і выкарыстаць у сваіх інтарэсах.

Два даклады былі яшчэ прысвечаны прапанован канстытуцыйнага парадку на Беларусі. Пункт погляду БНФ у гэтай справе прадставіў Валянцін Голубеў, а Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі — Аляксандр Дабравольскі.

На Беларусі думаецца цяпер пра ўсё — гаспадарку, канстытуцыйна парадак, замежную палітыку, культуру. Але гэта ёсць рух, які тычыцца толькі элітаў. Большасць людзей прывыкла, што хтосьці за іх вырашыць усе праблемы. Усё быццам бы таксама як і ў нас, на Беласточчыне.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# Д'ЯБЛЫ

*Працяг. Пачатак у 28 і 29 н-рах.*

Асабліва жорстка знішчалі сялян. 1921 г. „Амаль уся Ляскавіцкая воласць Бабруйскага павета спаленая бальшавікамі дарэшты, — паведамляецца ў Мельгунова. Арыштаваных адсылаюць у Валагодскую губ. ці ў галодныя месцы. Маёмасць іх канфіскуецца. Бяруцца дзесяткамі заложнікі".

Загад н-р 69 па Кіеўскай акрузе прадпісваў „ужыванне масавага тэрору супраць заможных сялян, аж да вынішчэння іх „поголовно".

У Кастрамской губ. начальства, прыехаўшы ў вёску, „ставіла ўвесь сход на калені, каб сяляне адчулі павагу да савецкай улады..."

У Арлоўскай губ. пры зысканні надзвычайнага падатку шырока практыкаваліся ператваранні сялян у „ледзяныя слупы" (аблівалі вадой прывязанага на марозе).

У Тамбоўскай губ. чэкісты „арыштавалі" ікону Багародзіцы і глуміліся над ёй (плявалі і т. п.). Сяляне пайшлі „сцяной вызваляць Багародзіцу. Ішлі бабы, дзяды, дзеці. Па іх ЧК адкрыла агонь з кулямётаў, а яны ідуць па трупах, па раненых, лезуць напралом, вочы страшныя, маткі дзяцей наперад, крычаць: Матухна Заступніца, уратуй, памілуй, усе за цябе ляжам..." (Мельгуноў). Їляглі.

Страшным, пакутным было становішча жанчын. Дзікае, подлае глуменне. Вясной 1918 г. у Екацярынадары камуністы выдалі дэкрэт, надрукавалі яго ў „Известиях Совета" аб „сацыялізацыі" дзяўчат ва ўзросце ад 16 да 25 гадоў. Жадаючыя звярталіся ў „надлежащие революционные учреждения". Вось дакументальны ўзор такога мандата: „Мандат. Предъявителю сего товарищу Карасёву предоставляется право социализировать в городе Екатеринодаре 10 душ девиц возрастом от 16-ти до 20-ти лет, на кого укажет товарищ Карасёв. Подпись: Главком Иващев. Место печати". (Справа н-р 18).

На падставе такіх мандатаў было схоплена 60 дзяўчат. Усе яны былі згвалтаваныя. Некаторыя пасля жорсткіх катаванняў былі забіты і выкінуты ў раку. „Так, напр., вучаніца 5-га класа гімназіі была згвалтаваная на прыцягу 12 сутак цэлай групай... Затым бальшавікі прывязалі яе да дрэва і палілі агнём і, нарэшце, расстралялі". (Справа н-р 18).

Сведчанні аб засценках, катаваннях і дзейнасці ЧК — жахлівыя. Гэта пекла. Адзін з кіраўнікоў ВЧК Лацыс пісаў у „Чырвоным тэроры": „Першае пытанне, якое вы павінны прапанаваць абвінавачанаму — якога ён паходжання, выхавання, адукацыі ці прафесіі. Гэтыя пытанні і павінны вызначыць лёс абвінавачанага. Мы знішчаем буржуазію як клас".

Допыт следчага ЧК у Стаўрапольскай губ. зводзіўся да адной фразы: „Пакажы руку! Раздзець". З вязня зрывалі адзежу і штурхалі да выхаду. Там яго падымалі на штыкі і кідалі цела ў яму.

Яшчэ прасцей вялі следства ў Бронніцах пад Масквой. „Там камісарамі расстрэльваліся ўсе, чые фізіяноміі ім не падабаліся". (Мельгуноў).

У Яраслаўлі заложнікаў расстрэльвалі з прэвентыўнай мэтай. У іншых месцах, як сведчыў Лацыс, „на всякий случай". Людзей афіцыйна забівалі, часам не ведаючы іх прозвішчаў, каго і за што забілі.

Метады забойстваў ЧК (а гэта ўсё стаяла „на канвееры") былі самыя разнастайныя, — ад грубага біцця ломам, да „артыстычнага палявання". Арыштаваных жанчын (ці мужчын) месячнай ноччу выпускалі ў абгароджаны глухім плотам сад і наладжвалі на іх паляванне з рэвальверамі.

Забівалі дубінай павольна на працягу гадзіны, каб назіраць пакуты ахвяры. У Харкаве (кіраўнік ЧК Саенка) здымалі скальпы, у тым ліку з рукі (рабілі пальчаткі з чалавечай скуры). Памочнік Саенкі матрос „Эдуард" умеў пры забойстве па-сяброўску размаўляць з вязнем і тут жа „выстраліць яму ў патыліцу, заліваючыся бясклапотным смехам. У Царыцыне і Камышыне пілавалі косці. У Палтаве і Крамянчугу святяроў і сялян саджалі на кол. Сялян яшчэ і спальвалі на калах, а кіраўнік ЧК („Грышка-Прастытутка") сядзеў на крэсле і пацешаўся пры гэтым. У Екацерынаславе ўкрыжоўвалі, павольна смажылі ў печах, разрывалі папалам лябёдкамі, апускалі ў кіпень. У Варонежы качалі ў бочках, прабітых цвікамі. У Кіеве ЧК прыдумала прыстасаванне з трубой, калі ахвяру наскрозь праядаў пацук. У Адэсе... Страшна было ў Адэсе.

Асабліва звярэлі каты-жанчыны. Нейкая дзяўчына Вера Грабеннюкава літаральна крамсала свае ахвяры. За два з паловай месяцы службы ў Адэскай ЧК забіла 700 чалавек. У Валагодскай і Архангельскай губ. забівала нейкая Рэвека Майзель. Ездзіла яна нават у страшны Халмагорскі канцлагер, каб суняць сваю старасць. Там утапіла 500 чалавек. У Пензе звярэла нейкая Бош, у Маскве — дама з папяроскай, у Адэсе — садыстка па клічцы „Мопс", у Баку — „таварищ Люба", у Рыбінску — „Зіна". Усюды былі свае „звяры". Ніхто не мог, аднак, зраўняцца з чэкісцкім катам Магам з Масквы. Гэты адзін забіў 11 тысяч людзей. У час „аперацыі" Мага прыходзіў у экстаз. Аднойчы пасля расстрэлу 20 чалавек ён, згубіўшы кантроль над сабой, накінуўся на каменданта турмы Асобага аддзела ВЧК, які прысутнічаў пры расстрэле так сабе, „из любви к искусству". „Распранайся!" — закрычаў ашалелы Мага, увесь апырсканы крывёй і мазгамі. Ледзь скруцілі энтузіяста.

У Растове-на-Доне ЧК узначальваў Петэрс. У час расстрэлаў за ім бегаў хлопчык гадоў 8—9 і пастаянна прыставаў да яго: „Тата, дай я..."

Пра катаванні, што прыдумалі чэкісты, немагчыма ні слухаць, ні пісаць. Скажу толькі, што фантазія тут была нечалавечая — сатанінская. Людскі розум да такога не дадумеецца. Самае простае катаванне — гэта калі жывога чалавека клалі ў труну з гніючым трупам, зачынялі вечка і закопвалі ў магілу на 30 хвілін. Затым адкопвалі і прадаўжалі допыт, пакуль не скажа, што трэба, альбо не звар'яцее. Потым забівалі.

„Чрезвычайная Комиссия — краса и гордость Коммунистической партии", — казаў Зіноўеў. „Отныне мы все должны стать агентами Чека", — Бухарын. „Чрезвычайка — это лучшее, что наши советские органы могут дать", — Лацыс. І гэта сапраўды так. У ЧК і потым у НКВД і КГБ — квінтэсенцыя бальшавізму.

Не буду пісаць таксама пра катаванні, крывавыя оргіі ў турмах і глумленне чэкістаў над жанчынамі. Тут, здаецца, сама прырода змаўкае ў жаху, увесь Сусвет. Лічу, што нельга гэта апісваць, бо ўжо само апісанне ёсць знявага Той, на якой трымаецца жыццё. Сведчанняў пра звярынае аблічча ленінскага бальшавізму тысячы. Я пераказаў тут некалькі агульнавядомых у некамуністычных краінах фактаў, каб тыя, хто чытае подлыя сцвярджэнні, накшталт „няхай сабе і праз расстрэлы", ведае, што рэальна за гэтым стаіць і як адбіваецца на чалавечых лёсах.

*Заканчэнне будзе.*

**ЗЯНОН ПАЗНЯК,**
**старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук, народны дэпутат Беларусі.**

# СУСТРЭЧА Ў БЕЛАВЕЖЫ

З 22 па 30 чэрвеня 1993 г. у Цэнтры вучобы і адпачынку Брацтва праваслаўнай моладзі ў Белавежы праходзіў міжнародны семінар пад дэвізам „Нацыянальныя, этнічныя і рэлігійныя меншасці ў Еўропе". Семінар арганізавала Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы пры фінансавай дапамозе Еўрапейскага фонду моладзі са Страсбурга (Францыя) і Фонду культуры Міністэрства культуры і мастацтва.

У семінары ўдзельнічалі 35 прадстаўнікі праваслаўнай моладзі з Беларусі, Фінляндыі, Літвы, Нямеччыны, Румыніі, Вялікабрытаніі і Польшчы. За спраўным ходам семінара сачылі: арганізацыйны камітэт з пяці чалавек, чатыры перакладчыкі на афіцыйныя мовы семінара (англійскую і рускую) і два тэхнікі.

Падчас сустрэчы ўдзельнікі заслухалі дзевяць дакладаў непасрэдна звязаных з тэматыкай семінара і пазнаёміліся з сітуацыяй нацыянальных і рэлігійных меншасцяў у краінах — удзельніцах семінара. Частка дакладаў непасрэдна датычыла сітуацыі меншасцяў у Польшчы. Яраслаў Матвяюк з Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку прадставіў законныя ўрэгуляванні адносна меншасцяў у Польшчы на фоне агульнаеўрапейскіх рэгуляцый, Марэк Галушка з Хельсінскага Фонду правоў чалавека абмеркаваў актуальныя праблемы меншасцяў у Польшчы, Яўген Чыквін, былы адзіны праваслаўны пасол у Сейм РП, расказаў аб дзейнасці польскага парламента на ніве аховы правоў меншасці, а Павел Казанэцкі з Міністэрства культуры і мастацтва прачытаў даклад на тэму палітыкі дзяржавы ў адносінах да нацыянальных меншасцяў.

Астатнія даклады былі прысвечаны іншым аспектам праблемы меншасцяў. Праваслаўны епіскап Врацлаўскі і Шчэцінскі Ерэмія гаварыў аб біблейскай інтэрпрэтацыі адносін большасці да прышэльца звонку. Уладзімір Місіюк, член Выканаўчага камітэта Сусветнага брацтва праваслаўнай моладзі, у сваім выступленні прааналізаваў падабенствы і розніцы „заходняга" і „ўсходняга" Праваслаўя, а Алёна Яскевіч з Акадэміі навук Беларусі прадставіла рэлігійныя асновы філасофіі Францыска Скарыны.

Тэрыторыі Беласточчыны непасрэдна датычылі два даклады: фізіка Анатоля Адзяевіча на тэму сэнсу і значэння аховы культуры меншасцяў і гісторыка Антона Мірановіча аб фармаванні нацыянальнай і рэлігійнай свядомасці насельніцтва на Беласточчыне.

Канкрэтным вынікам семінара з'яўляецца „Адозва да моладзі свету" (тэкст адозвы друкуем ніжэй), апрацаваная і ўхваленая ўдзельнікамі сустрэчы. Выказвае яна занепакоенасць і боязь моладзі за будучыню яе самой і свету, у вытокаў якіх ляжаць сённяшнія войны, нацыянальныя і рэлігійныя канфлікты ды невыкананне падставовых правоў меншасцяў.

Удзельнікі семінара аднадушна вырашылі аб патрэбе арганізавання падобных сустрэч у будучым, што, у выніку лепшага зразумення праблемаў меншасцяў, дазволіць пазбегнуць многіх войнаў, канфліктаў і непаразуменняў. Вырашана, што чарговая сустрэча такога тыпу адбудзецца ў наступным годзе ў Беларусі. ■

## АДОЗВА ДА МОЛАДЗІ СВЕТУ

Мы, прадстаўнікі праваслаўнай моладзі з сямі краін Еўропы: Беларусі, Фінляндыі, Літвы, Нямеччыны, Польшчы, Румыніі і Вялікабрытаніі, усяго 35 чалавек, сабраныя ў Белавежы з 22 да 30 чэрвеня 1993 года на Міжнародным маладзёжным семінары на тэму „Нацыянальныя, этнічныя і рэлігійныя меншасці ў Еўропе", арганізаваным Брацтвам праваслаўнай моладзі ў Польшчы:

— абмеркавалі многія пытанні, якія датычаць сітуацыі нацыянальных, этнічных і рэлігійных меншасцяў у розных рэгіёнах Еўропы,

— пазнаёміліся з праблемамі, якія хвалююць моладзь у розных краінах,

— наладзілі шэраг узаемных кантактаў,

— пазнаёміліся з біблейскай інтэрпрэтацыяй адносін паміж нацыянальнымі большасцямі і меншасцямі,

— у малітоўнай атмасферы дзяліліся мы нашымі боязямі і надзеямі накont будучыні — нашай і свету,

— пазналі рэаліі існавання і культуру нацыянальнага і рэлігійнага памежжа,

— пазналі цяжкасці, якім мусілі супрацьставіцца праваслаўныя дзеля захавання сваёй тоеснасці на працягу стагоддзяў на фоне адносін паміж Праваслаўнай царквой і Рымска-Каталіцкім касцёлам.

У сувязі з гэтым:

— мы лічым, што знікненне хаця б адной нацыянальнай культуры — гэта незабыўная страта для ўсяго чалавецтва,

— заклікаем, каб дзяржавы і ўрады адводзілі больш увагі меншасцям, што пражываюць на іх тэрыторыі,

— лічым неабходным гарантыю для нацыянальных меншасцяў спецыяльных правоў, асабліва права навучання на роднай мове, права на ўжыванне гэтай мовы ва ўстановах дзяржаўнай адміністрацыі, права на шырэйшы доступ да сродкаў масавай інфармацыі,

— мы хацелі б, каб чалавек сапраўды бачыў у іншым чалавеку брата і каб у гэтай галіне ўсё не зводзілася да слоў, каб за словамі ішлі дзейнні,

— прагнем хуткага спынення ўсіх войнаў, канфліктаў і ўсялякай варожасці,

— заклікаем большасці ставіцца да меншасцяў згодна з евангелічным прынцыпам любові да бліжняга,

— верым, што Усемагутны Бог моцай Свае ласкі будзе захоўваць усялякае стварэнне ад непаразуменняў, канфліктаў, войнаў, ад людскога бяздум'я, якое імкнецца да самазнішчэння,

— молімся аб збаўленні ўсіх і аб міры ва ўсім свеце.

Мы, удзельнікі семінара, абавязваемся распаўсюджваць і абараняць вышэйзгаданыя ідэі і з надзеяй у Богу з усіх сіл імкнуцца да іх рэалізацыі.

**Удзельнікі Семінара**
**Беласток, 30.06.1993 г.**

# СЭНС ПАКУТАЎ

Пакуты — адна з адвечных, абсалютна невычэрпных праблемаў чалавека. Вось і ў сёмую нядзелю пасля Пяцідзесятніцы, у 9-м раздзеле Евангелля паводле Мацвея, чытаецца пра аздараўленне Хрыстом двух сляпых і нямога. Апісанняў цудаў аздараўлення хворых у Св. Пісанні мноства. Кожнае з іх мела нейкі своеасаблівы сэнс павучэння народу. Пакуты паасобных людзей былі для Хрыста нагодай усведаміць людзям прычыну бедаў, раскрыць іхны глыбейшы сэнс. Звычайна ў Евангеллі хваробы і гора спалучаліся з грахом, лічыліся пакараннем. Аднойчы, на пытанне „Ці зграшыў сам хворы ці ягоныя бацькі?" Хрыстос адказаў так: „Ні ён, ні бацькі ягоныя, але каб вывілася на ім сіла Божая".

Пытанне пакутаў — вечнае. Хваробы і гора, паражэнні і нястачы, трагічная заканамернасць людскога лёсу. Чалавек журыцца аб сваім трагічным лёсе не толькі таму, што ён невыносны. Ён успрымае свой боль як незаслужаны, несправядлівы і непатрэбны. „Чаму такое мусіла мяне спаткаць?" — бедавала Маргарыта, гераіня „Фаўста". Раз за разам раздаецца скарга: „Чаму ўзнікаюць такія страшныя войны, трагедыі, катаклізмы? Чаму пакутуюць нявінныя бездапаможныя дзеці? Дзе дзеўся Бог? Чаму Ён дапускае падобнае?.." Няверуючаму цяжка адказаць на такія пытанні; рацыянальнага адказу на іх няма. Можна, аднак, паспрабаваць адказаць гэтак: баліць, каб звярнуць увагу на хваробу; бываюць жахлівыя войны, каб людзі нарэшце ўсведамілі сабе вартасць міру; ёсць смерць, каб людзі ацанілі вартасць жыцця. Можна адказаць і гэтак, але хрысціянін шукае адказу ў глыбіні сваёй веры. Можа, ёсць нейкі, нам невядомы Божы план, можа гэта проста адзіны сродак выратавання галоўнага ў чалавеку — ягонай душы...

У штодзённым жыцці, без мікраскопа бачна адну сумную з'яву, якой нехто не турбуецца. Назіраем, што дабрабыт пераважна робіць чалавека нячулым да беднасці іншых. Улада выклікае пыху і нахабства; паспехі родзяць зазнайства і самаўпэўненасць. Бяскарнасць разбэшчвае яшчэ болей. Людзі здаровыя, маладыя, моцныя, звычайна бываюць легкадумнымі і пустымі. Яны не задумваюцца глыбей, не лічацца з Богам. Каб спакарнелі, трэба іх ударыць, патрэбна нейкае няшчасце, трэба, каб для ацверажэння спазналі бяду, небяспеку ці нястачу. Толькі тады зразумеюць свае памылкі, прабудзяцца ў іх вышэйшыя пачуцці...

Шмат людзей павярнуліся да веры ў цяжкіх абставінах, перад пагрозай смерці, у цяжкай хваробе. Іхны боль і пакуты запачаткавалі духоўнае адраджэнне, сталіся бласлаўленнем для іх саміх і для іншых людзей... Амаль 250 гадоў таму памёр Георг Фрыдрых Гендэль. Выдатны кампазітар раптам быў часткова паралізаваны, спачатку апынуўся нават без сродкаў да жыцця. У гэтакай сітуацыі ён упершыню сур'ёзна перадумаў сваё жыццё і звярнуўся думкамі да Бога. У такім стане Гендэль стварыў несмяротную араторыю „Месія", якая да сённяшняга дня кранае мільёны сэрцаў, у якой людзі знаходзяць бальзам для душаў. Гора, якое спаткала кампазітара, узбагаціла яго, сталася бласлаўленнем для яго і ягонай творчасці. Вялікі паэт Джон Мільтан напісаў сваю славутую паэму „Страчаны рай" у часе, калі цалкам асляп. Бяда наогул адабратварыла шматлікіх выдатных людзей, перарабіла іх унутрана і прыдала гуманізму і глыбіні іхным творам.

„Сіла Божая выяўляецца ў немачы" — гаворыцца ў Святым Пісанні. Там, дзе канчаецца чалавечая моц і самаўпэўненасць, дзейнічаць пачынае Божая сіла. Паасобныя і агульныя пакуты становяцца пасевам вышэйшых каштоўнасцяў. Вялікае і трывалае нараджаецца ў болі.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

### II УСЯЛЕНСКІ САБОР — КАНСТАНЦІНОПАЛЬ, 381 г.

Ён быў ён скліканы дзеля заканчэння арыянскіх спрэчак і асуджэння ерасі канстанцінопальскага епіскапа Македонія, які не прызнаваў Боскасці Трэцяй Асобы Святой Тройцы — Святога Духа і прапаведаваў, што Ён — усяго толькі Божая Сіла, якая служыць і падлягае як Айцу, так і Сыну, быццам Анёлы. На гэтым жа саборы ўстаноўлена была догма, што Святы Дух роўны і суісны Богу Айцу і Богу Сыну. Заключана яна ў 8 артыкуле Сімвала Веры. На II Саборы былі складзены пяць чарговых артыкулаў, якія з першымі сямі артыкуламі І Сабора стварылі Сімвал Веры з дванаццаці артыкулаў, названы нікея-канстанцінопальскім, які праваслаўныя ўсяго свету вымаўляюць ужо звыш 1600 гадоў.

II Усяленскі Сабор быў скліканы пры панаванні імператара Феадосія Вялікага. У ім удзельнічала 15 епіскапаў, між іншым, Рыгор Тэолаг, Рыгор з Нісы, Кірыла Іерусалімскі. Вось тры з сямі ўстаноўленых тады артыкулаў:

3. Канстанцінопальскі епіскап няхай мае першынство гонару пасля епіскапа рымскага, бо гэты горад (Канстанцінопаль) з'яўляецца новым Рымам.

4. Адносна Максіма Цыніка і ўчыненага ім непарадку ў Канстанцінопалі: Максім ніколі не быў і не ёсць епіскапам, таксама як і тыя, каго ён пасвяціў у які-небудзь духоўны сан; і ўсё, што зроблена ў адносінах да яго, і што ён сам зрабіў, лічыцца несапраўдным.

5. Адносна томасу *) заходніх: прымаем і прабываючых у Антыёхіі, якія верацьу адзінага Бога Айца, Сына і Святога Духа.

**С. Н.**

-------------------

** томас заходніх — пастановы заходніх (рымскіх) епіскапаў, якія прызналі і пацвердзілі Сімвал Веры з Нікеі.*




**Szanowna Redakcjo.**

W Waszym poczytnym Tygodniku „Niwa" z dnia 20.06.1993 r. w artykule Pana D. Szatyłowicza o Apostolskim Soborze w Jerozolimie w 51 roku, w trzeciej kolumnie, są takie słowa: „Katalickija teołahi imknucca dakazać..."

Odnoszę wrażenie, że takie sformułowanie jest niewłaściwe. Nikt nikogo nie przekonuje (ani niczego nie ukrywa — dopisek mój). Można o wszystkim, łącznie ze słownictwem aramejskim czy greckim, dowiedzieć się w „Encyklopedii Katolickiej" wydanej przez Towarzystwo Naukowe Katolickiego Uniwersytetu Lubelskiego, Lublin 1989 r. — tom II, strona 956—997; tom IV, strona 1375.

Traktują o tym również: „List św. Jakuba", William Barclay, strona 20—28. Tłumacz Konstanty Wiazowski, Wydawnictwo „Słowo Prawdy", Warszawa 1980, oraz „Biblia Tysiąclecia", Pallottinum — Poznań 1965 r. — św. Mateusz, strona 1221; św. Marek, strona 1258. Radzę przeczytać.

Na temat dogmatu o Niepokalanym Poczęciu i Wniebowzięciu wcale nie zabieram głosu, to jest dogmatem Wiary, a Wiara jest Łaską Bożą.

Z należnym szacunkiem

**brat Bronisław Kawecki ofm.**

### ЧАМУ „НІВА" У ПЯТНІЦУ НЕ ПРЫХОДЗІЦЬ?

Спытаў раз Чыноўнік пан Х Чыноўніка пана Y:

— Ці не маюць задобра ў нас беларусы? Падумайце, іхняя „Ніва" ў пятніцу выходзіць! Чытаць ім хочацца ў выхадныя дні! Чуў, што і паляк не адзін яе чытае. Вось бяда! Давай, знеахвоцім іх, га? Для продажу „Ніву" дамо ў пятніцу, а падпісчыкам — у панядзелак?.. Падумаць толькі! Ці палякам за мяжой так добранька, як ім? Беларуская „Ніва" ўжо аж трыццаць восьмы год выдаецца, а наш „Глос"? Колькі?!

— Так, так, я з панам згодны! — сказаў чыноўнік Y.

Як пастанавілі, так і зрабілі. З той пары стала нядзельная „Ніва" паяўляцца на поштце і для падпісчыкаў, і для продажу — у панядзелак. У кіёсках — тое ж. Хто „Ніву" чакаў, той і чакае ды чытае, а хто не — то яму ўсё роўна.

А хто нам скажа, ці яшчэ чаго новага панове X і Y не выдумаюць? Мо „Ніва" будзе выходзіць у сераду або раз у месяц, а, можа, у продажы і не паявіцца?..

**АЎРОРА**

# БЛАКАДА З ЛЮДСКІМ ТВАРАМ?

**Паважаных чытачоў тыднёвіка „Ніва" хачу пазнаёміць з асаблівым і непаўторным эпізодам у маёй настаўніцкай біяграфіі, які закончыўся поўным крахам. Вясной гэтага года былі ўмовы, каб стаць метадыстам геаграфіі, былі перспектывы на кар'еру, на крыху іншы хлеб, але... мяне не выбралі.**

**Аднак я не сумую, бо надалей застаўся сабою.**

**ЮРКА БАЕНА**

**P. S. Некаторыя факты ў маім прашэнні не прымайце як самахвальства ці аўтарэкламу. Проста, пра іх трэба было нагадаць, тады яшчэ наіўна верыўшы ў паспяховасць справы. (Сам жа пан дырэктар Ян Зенюк 2 чэрвеня запэўніваў мяне, што дапаможа „ze względu na wzgląd").**

*Jerzy Bajena*
*nauczyciel geografii*
*w Szkole Podstawowej Nr 3*
*w Bielsku Podlaskim*

**Pan Doktor Jan Zieniuk**
**Dyrektor Zespołu Placówek**
**Doskonalenia Nauczycieli**
**w Białymstoku**

Zwracam się uprzejmie do Pana Dyrektora z prośbą o zatrudnienie mnie z początkiem roku szkolnego 1993/94 w charakterze doradcy metodycznego z geografii.

W 1980 roku ukończyłem geografię nauczycielską na Uniwersytecie Marii Curie-Skłodowskiej w Lublinie, uzyskując tytuł magistra. 2 lata pracowałem w szkołach wiejskich z klasami łączonymi. Od 1 września 1983 roku do chwili obecnej jestem nauczycielem geografii w Szkole Podstawowej Nr 3 w Bielsku Podlaskim.

Dotychczas przygotowałem 25 finalistów wojewódzkich konkursów geograficznych, w tym 14 laureatów (do roku szkolnego 1991/92 konkursy te odbywały się w co drugim roku). Kilkakrotnie drużyny Szkolnego Koła Krajoznawczo-Turystycznego uczestniczyły w eliminacjach wojewódzkich Ogólnopolskiego Młodzieżowego Turnieju Krajoznawczo-Turystycznego PTTK, zajmując czołowe miejsca.

Mam I stopień specjalizacji zawodowej. W 1989 roku otrzymałem Nagrodę Kuratora.

W wyborach samorządowych w maju 1990 roku społeczność lokalna wybrała mnie radnym Rady Miasta Bielsk Podlaski.

Wiosną 1992 roku uczestniczyłem w pierwszej edycji kursu wprowadzającego w problematykę nowej koncepcji kształcenia ogólnego w Sulejówku (listę uczestników tego kursu zamieszcza „Reforma Szkolna" nr 1/92 — dodatek do „Społeczeństwa Otwartego"). Odtąd jestem w stałym kontakcie z Biurem ds. Reformy Szkolnej. Nauczycielom, uczniom i ich rodzicom prezentuję założenia nowej koncepcji kształcenia ogólnego oraz omawiam stan przygotowań do reformy szkolnej.

Jako członek powołanej 2 lata temu Komisji ds. Reformy Szkolnictwa Białoruskiego w Polsce przygotowałem dodatek (suplement) do aktualnego programu nauczania geografii w szkołach podstawowych i średnich województwa białostockiego, zwłaszcza z dodatkowym językiem białoruskim, a dotyczący tematyki białoruskiej i regionalnej. Opracowanie to przekazałem na ręce pani doktor Melanii Sobańskiej-Bondaruk — głównego specjalisty do spraw szkolnictwa mniejszości narodowych w Ministerstwie Edukacji Narodowej w czasie jej pobytu w mojej szkole 17 grudnia 1992 roku. Wówczas to wyrażona została wola wzajemnej współpracy między kierowanym przez panią dr M. Sobańską-Bondaruk departamentem, a powyższą komisją. Między innymi dyskutowana była obsada wakującego etatu doradcy-metodyka z geografii po odejściu pani Teresy Święcickiej na emeryturę. Propozycję delegowania mojej osoby na tę funkcję pani doktor przyjęła z pełną aprobatą.

W kwietniu bieżącego roku w bielskim Domu Nauczyciela w obecności kierownika i kilku pracowników Delegatury Kuratorium Oświaty, Biblioteki Pedagogicznej i prezesa Oddziału ZNP Pan Dyrektor zaproponował mi z początkiem nowego roku szkolnego objęcie obowiązków doradcy metodycznego, na co zgodziłem się z nieukrywaną chęcią. W mojej szkole jest dwóch nauczycieli geografii, ale liczba godzin lekcyjnych z tego przedmiotu nie wystarcza na pokrycie obu etatów. Projekt organizacyjny szkoły na rok szkolny 1993/94 został opracowany tak, że uwzględnia zmianę mego charakteru pracy zawodowej.

Piętrzące się ostatnio problemy wokół obsady funkcji metodyka geografii nie są wolne od niedomówień, dalekie od podmiotowego traktowania zwykłego nauczyciela, są poniżające dla mojej osoby, wręcz upokarzające. Dotychczas nie było mi dane pracować w szkole średniej. Praca w szkole podstawowej w tej relacji nie jest żadną ujmą, jest może nieraz trudniejsza niż na przykład w wielkomiejskim elitarnym liceum ogólnokształcącym. Twierdzenie o mojej nieznajomości programów geografii szkół średnich uznaję za bezpodstawne. Wobec chociby kilkakrotnej liczbowej przewagi dzieci w szkołach podstawowych podległych bielskiej Delegaturze Kuratorium Oświaty w stosunku do liczby młodzieży uczącej się geografii w szkołach średnich, wobec stałej potrzeby prezentacji reform systemu szkolnego, wobec braku fachowych opracowań geograficznych dla uczniów i uczącej się młodzieży o własnym regionie czy sąsiednich państwach (a przecież takie są obecnie tendencje poznawcze w polskiej i europejskiej geografii szkolnej, które mogą też stanowić tematykę przyszłych konkursów geograficznych), wobec realnego faktu potrzeby ustawicznej pomocy nauczycielom niegeografom, uczącym geografii w małych szkołach wiejskich, wreszcie wobec potrzeby adekwatnego funkcjonowania młodego pokolenia w kulturowo zróżnicowanym społeczeństwie Białostocczyzny argument prymujący wyłącznie specjalistę od nauczania geografii w szkole średniej w hierarchii priorytetów jest dyskusyjny i jakby mniej racjonalny.

Mam 36 lat i 13-letni staż pracy w szkole. Pod względem wieku jestem u szczytu swoich największych możliwości zawodowych i twórczych. Z czysto ludzkich pobudek, w imię szans samorealizacji i szczerej chęci dobrego służenia pomocą koleżankom i kolegom — nauczycielom geografii, bardzo proszę o życzliwy stosunek do mnie i akceptację mojej kondydatury.

**Jerzy Bajena**

*Bielsk Podlaski, 17 czerwca 1993 r.*

* * *

**А вось адказ, які Юрка Баена атрымаў 30.06.1993 г. ад кіраўніцтва Аб'яднання ўстаноў удасканальвання настаўнікаў у Беластоку:**

„W odpowiedzi na Pana podanie z dnia 17 czerwca 1993 r. o zatrudnienie w charakterze doradcy, Dyrektor Zespołu Placówek Doskonalenia Nauczycieli w Białymstoku uprzejmie informuje, że weźmie Pana kandydaturę pod uwagę w dalszych planach kadrowych. W obecnej chwili, ze względu na trudną sytuację finansową oświaty nie planujemy zatrudnienia drugiego doradcy geografii szkół podstawowych.

Pana doświadczenie i osiągnięcia postaramy się wykorzystać za Pana zgodą w prowadzonych przez naszą placówkę formach doskonalenia nauczycieli.

Życzymy dalszych sukcesów w pracy pedagogicznej".

# БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКАЯ ДЫСКУСІЯ

У 1986 годзе ў варшаўскім студэнцкім асяроддзі ўзнікла таварыства „Памост". Ладзіць яно даклады і дыскусіі, прысвечаныя нацыянальным стасункам у Цэнтральна-Усходняй Еўропе. Галоўная мэта дзейнасці таварыства — наладжванне збліжэння і паразумення між народамі, што жывуць на абшары, які часамі завецца Міжмор'ем (або іначай — абшарам паміж Расеяй і Нямеччынай).

„У апошні час карта Еўропы збольшага змянілася да сваіх старых гістарычна-геаграфічных межаў — піша заснавальнік таварыства „Памост" Тамаш Шчапанскі. — Але застаўся яшчэ стары склад мыслення з папярэдняга часу, таму і надалей актуальныя праблемы, якія прычыніліся да заснавання таварыства. Таму яно дзейнічае й сёння".

Дзейнічае і, відаць, шукае новых форм актыўнасці. Прыведзеная вышэй цытата ўзятая мною з першага нумара часопіса „Дыскусія", які выйшаў з друку ў Варшаве ў чэрвені г. г. Заснавалі яго беларусы і палякі, у той ці іншы спосаб павязаныя з таварыствам „Памост".

Рэдактары прыглядаюцца да польска-беларускіх сувязяў у галіне гаспадаркі, культуры, палітыкі, пішуць пра супольную гісторыю. Сярод аўтараў першага нумара ёсць пісьменнік Сакрат Яновіч, гісторык Крыстына Гамулка, філолаг Ніна Баршчэўская і эканаміст Марк Апілоўскі. Але сама рэдакцыя, гэта маладыя людзі, ці то студэнты, ці навуковыя супрацоўнікі, ці журналісты Беларускай праграмы Польскага радыё ў Варшаве.

Частка матэрыялаў у часопісе друкуецца па-польску, частка па-беларуску, лацінкай. Тут, па-мойму, першы і галоўны недахоп „Дыскусіі". Калі мае атрымацца сапраўдная дыскусія, дык трэба прытрымлівацца такога прынцыпу: аб польскіх пытаннях пісаць па-беларуску і наадварот, аб беларускіх — па-польску. Якую ролю мелі б спаўняць нарысы пра беларускую мову і па гісторыі літаратуры, менавіта, па-беларуску? Пісьменным беларусам гэта збольшага вядомае, а палякі маглі б навучыцца нечаму новаму.

Другі недахоп — гэта друкарскія памылкі, апушчаныя літары, перакручаныя словы. Калі б рэдакцыя працавала больш салідна, без лішняй паспешнасці, усяго гэтага можна было б пазбегнуць. Тым не менш, першы нумар „Дыскусіі" выклікае някепскае ўражанне. Калі рэдактарам хопіць настойлівасці, можа ён аказацца цікавай пазіцыяй на выдавецкім рынку. Тэмаў напэўна хопіць.

**М. В.**

# „БЕЛАРУСКІЯ НАВІНЫ" № 4

## Чытанне для цярплівых

У чэрвені выйшаў з друку чацвёрты выпуск бюлетэню Беларускага дэмакратычнага аб'яднання „Беларускія навіны". Выпадае пакуль так, што бюлетэнь выходзіць раз у год, і яго змест прывязаны да самых значных падзеяў у беларускім палітычным руху на Беласточчыне — да кангрэсаў БДА і да ўдзелу беларускага асяроддзя ў выбарах (самаўрадавых і парламенцкіх). На часцейшую выдавецкую актыўнасць не стае ні часу, ні фінансавых сродкаў у дзеячоў БДА. Гэтыя чыннікі абумоўліваюць і сам накірунак бюлетэню — у ім з'яўляюцца тэксты або абагульняльнага (сінтэтычнага) характару, прысвечаныя беларускаму палітычна-грамадскаму руху, або ўдумлівыя аналізы паасобных важных падзеяў (перш за ўсё — выбараў). Змест „Беларускіх навінаў" спланоўваецца загадзя Галоўнай радай БДА, і канкрэтныя тэксты пішуцца па заказу. Няма ў бюлетэні так званай актуальнай публіцыстыкі на беларускія тэмы — гэтую ролю ў беларускім асяроддзі лепей ці горай выконваюць „Ніва" і „Часопіс". Зразумела, што кола чытачоў і атрымальнікаў чыста палітычнага беларускага выдання ў Польшчы — невялікае. „Беларускія навіны" трапляюць у рукі актывістаў руху ды невялікай групы асобаў з польскага асяроддзя, якія цікавяцца беларускімі пытаннямі па прафесійных прычынах (палітолагі), або па практычных (палітыкі розных арыентацый). Такім чынам, „Беларускія навіны" з'яўляюцца найбольш кампетэнтным і салідным выданнем па праблемах беларускага палітычнага руху на Беласточчыне (перш за ўсё таму, што рэдагуюць гэтае выданне самі ўдзельнікі руху). Што тычыцца пранікнення беларускіх палітычных ідэяў у так званыя „масы", яно адбываецца, хоць і не так эфектыўна, як гэта можна было б рабіць пры дапамозе нейкага шматтыражнага выдання або па радыё ці тэлебачанні. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова пагартаць папярэднія выпускі бюлетэню і прыгледзецца да тых палітычных ідэяў і пастулатаў, якія вылучыла БДА пару гадамі таму — шмат што з таго бачання беларускіх праблемаў ды спосабаў іхняга вырашэння, якое прапанавалі маладыя беларускія дзеячы паслямітынгавага пакалення, сёння стала набыткам шырэйшай грамадскай свядомасці нашых суродзічаў на Беласточчыне і не ўспрымаецца ўжо як нейкае дзівацтва ці pobożne życzenie групкі ідэалістаў. У гэтым — несумненная каштоўнасць „Беларускіх навінаў". Гэтае выданне — для цярплівых нашых дзеячоў, якія разумеюць, што шлях палітычнай ідэі да яе ажыццяўлення патрабуе, акрамя ўсяго іншага, пэўнага часу, пакуль грамадская свядомасць набудзе адпаведны дзеля практычных крокаў стан. Палітыка, апрача свае канкрэтнае мэты, — імкненне да ўлады, займаецца таксама выспельваннем палітычных ідэй і праграмаў, без якіх увесь палітычны працэс адбываецца наслепа або топчацца на месцы. У гэткім сэнсе, мы — як і некаторыя іншыя: здольнасць прадбачання і складання праграмаў усё яшчэ апярэджвае наш час, мераны ступенню трансфармацый у грамадскай ментальнасці і ў палітычным жыцці.

Чацвёрты нумар „Беларускіх навінаў" змяшчае рэфлексію Яўгена Міроновіча пра II Кангрэс БДА, які адбыўся ў студзені 1992 года, і пра становішча БДА пасля двух гадоў свайго існавання. Дадаткам да гэтай рэфлексіі служыць фактаграфічнае апрацаванне Аляксандра Максімюка пра сам ход Кангрэсу і прынятыя на ім пастановы ды дакументы. Нетаропкасць выдавецкага працэсу ў БДА спрычыніла, што толькі цяпер „БН" апублікавалі аналіз парламенцкіх выбараў 1991 года на Беласточчыне (пяра Алега Латышонка). Да гэтага аналізу далучаныя дзве табліцы, што адлюстроўваюць вынікі галасавання ў Сейм і Сенат на тэрыторыі, якая цікавіць беларускіх палітыкаў. Далей выданне змяшчае хроніку беларускага палітычнага руху за перыяд студзень 1992 — люты 1993, падрыхтаваную Юрым Калінам. У месцы „традыцыйнага" гістарычнага тэксту тым разам выданне змяшчае рэфлексію Сакрата Яновіча пра карані беларускага палітычнага руху сённяшняга дня, што арганізаваўся ў Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне.

Як і ранейшыя нумары, „Беларускія навіны" н-р 4 выйшлі на высокім выдавецкім узроўні. Рэдактарам выпуску з'яўляецца Аляксандр Максімюк, камп'ютэрны склад выканаў Юры Хмялеўскі. Выданне можна набыць у рэдакцыях „Нівы" і „Часопіса" (вул. Сураская 1, Беласток).

**ЯН МАКСІМЮК**

## Новыя вершы

*ДЗМІТРЫ ШАТЫЛОВІЧ*

### ДУБРОЎНІК

У мроях я бачу цудоўны Дуброўнік,
У золаце сонца, ў блакіце вады,
Калі я калісь, як далёкі вандроўнік,
Прыходзіў туды, каб пакінуць сляды.

Над брамаю Піле, трымаючы горад,
Мяне там святы Улах заўжды
сустракаў,
А з поўдня, як сколы слядзілі ад мора
Злы форт Лаўрэнац з круглай вежай
Бакар.

За брамай налева касцёл светлы Спаса,
За ім францысканскі стары манастыр
З высокай званіцай, як воін у касцы,
Трымалі пры мне баявыя пасты.

А побач направа фантан, як ратонда,
Высока да неба адкрыўшы свой рот.
У спёку паіў ён вадою халоднай
Натоўпы турыстаў у сотнях кагорт.

За ім зноў другі манастыр святой Клары
З прыемнай аркадай ва ўнутраны двор,
З якога даходзілі гукі гітары
І гоман з акон з-за апушчаных штор.

Славонскі фасад старадаўняга храма
З гатычным дэкорам: як ружа, акном.
З прыгожым франтонам, з дзвярамі,
як брама,
Бялеў і вітаў мармуровай сцяной.

І цёмныя тынкі прытулка манахаў
(З якога даўно ўжо стварылі музей),
Шыкоўны партал з Саваофем над дахам
Прасілі ўвайсці да адкрытых дзвярэй.

Там вычварны дворык са светлай аркадай,
Якая выглядвала вокнамі ў парк,
Там вырабы з золата ў бляску лампадак
У шкляных прылаўках ласкалі, як скарб.

Аптэка манахаў маніла цікавых
Рэцэптамі лекаў са старых крыніц.
А збоку унікумы годныя славы:
Тамы старажытных і рэдкасных кніг.

Далей за музеем на вуліцы Страдун,
Сярод каляровых і белых дамоў,
Я чуўся героем з цудоўнай балады
Прыйшоўшай, як сон, з легендарных
вякоў.

Калі ж я спакойна даходзіў да пляца
Мяне спатыкаў урачысты ансамбль:
Таможня Дзівона з чароўным палацам,
Калона Арланда, касцёла краса.

Рыбарская брама, званіца, як вежа,
Мастацкі шэдэўр — кафедральны сабор
І княжацкі двор ды і пляц беласнежны
Зліваліся ўсе ў зачараваны ўзор.

Я тут любаваўся іх бляскам, іх ценем,
Іх грацыяй вобразаў, яркасцю форм,
Мастацтвам дайлідаў часоў
Адраджэння,
Адкінуўшых межы старых цвёрдых норм.

За брамай Рыбацкай вясёлая гавань
Мяне сустракала блакітнай вадой.
І лодкі, байдаркі і хваля, як лава,
І востраў паблізу з зялёнай травой.

А раніцай часта, як рыцар на варце,
Любіў я хадзіць па сцяне крапаснoй
І зверху глядзець, як на вычварнай карце,
Усю панараму з лясной цалiной.

Глядзеў я на вуліцы з белых мармураў,
На дахі чырвоныя светлых дамоў,
На мора, на пальмы за сценамі мураў,
На горы паўночныя ў цені лясоў.

Наверх я катаўся канатнай дарогай,
Высока з-пад неба шукаў, як арол,
Садоў каляровых, фартоў, як астрогі,
І пляжаў шумлівых, як соты ад пчол.

І гэта жамчужына райскага мора
Дрыжыць ад стральбы і ад гукаў гармат,
І мучыцца, плача ад ран і ад гора,
Якія нанёс ёй свой родны булат.

Са скрынкі Пандоры палезлі, як спруты,
Нянавісці сейбіты і важакі,
Народ напаілі злачыннай атрутай
Узятай з варожай суседняй рукі.

Людзей падзялілі па веравызнаннях
І, як у вар'яцкім і жудасным сне,
Брат брату стаў ворагам, без спачування,
І нішчаць сябе ў грамадзянскай вайне.

*БАРЫС РУСКО*

* * *

Вуаль ночы спаўзае без прынукі
Як воск падагрэты агнём жаданняў
Бачу абрысы позірку хцівага
І золак зменлівы ў шматколерах
Бо ці ж воблака за гарой надзеі
повязь моцная?
Вяжа, а не дзеліць?
Шпацыр па ўзбоччы хоць і цепліцца
Толькі шпацыр
А не вялікі марш.

* * *

Замець асляпляе вочы
Слова асляпляе вочы
Форма асляпляе вочы
Сляпы — меч у далонях каваля
Замець размазвае контуры
Слова размазвае мову
Форма размазвае змест
Размазванне туманіць твар вобраза
Замець у вобразе неацэнная
Слова ў вобразе лішняе
Форма ў вобразе — хамелеон
Вобраз у намордніку — шаманаў сон.

* * *

Ад столі да падлогі ёсць месца
на чаканне
і між сценамі
хапае месца
за сцяною ёсць толькі мроя
здабыць якую можа адвага
Як лёгка глядзець на боль збоку
Як цяжка піць палын вёдрамі

* * *

Усё, што сабраў я ў падарожжы,
змясцілася ў канверце без паху.

Як сонца сваю прысутнасць,
выслаў я ліст у пустую прастору.

Словы ягоныя грэюць яе,
бы месяц пустэльню поўначы.

* * *

Твае вочы як неба,
заўсёды аднолькава іншыя.
Гарача-халодныя, як учарашні
і заўтрашні след.
Як шакалад — адначасова горкі
і салодкі.
Як песня, што вызваляе слязу
і ўсмешку захаплення.
Твае вочы ў маёй згорбленай душы —
вірлівы паказальнік дарог.

### УСЮДЫІСНЫ

Смяюся ўсюдыіснай радасцю.
Плачу ўсюдыісным смуткам.
Акунаю твар у разліў усюдыісных мараў.

На крылах тахіёнаў узнімаюцца
мае ўсюдыісныя думкі
і вяртаюцца да мяне.

Праз нябыт працягваю да сябе руку.
Мільён рук паціскаю праз нябыт.
На хвалях часу
у пульсуючым подыху неба
ўліваюся ва ўласную постаць.

Жыву ў прасторы і ў часе,
вечна нясу на сваіх плечах
колеры падзей.

### ДОСВІТАК

Будзь блізкі мне,
як воблака небу,
як крыло птушкам,
як слова мове.

Будзь блізкі мне,
бо ў западні голай
нават скала
крышыцца ўшэнт.

Будзь блізкі мне, свеце —
згорнуты бутоне вясны.

* * *

Найцяжэй знайсці страчаны шлях —
сляды завязлі ў дрыгве ночы.
Неба свеціць да болю магутнасцю зорак.
Найцяжэй знайсці страчаны шлях.
Найцяжэй сабраць жэмчуг, што ўпаў на
твань — вочы ўстраглі ў вантробы імглы.
Люстра агольваецца да жылаў дна.
Найцяжэй сабраць жэмчуг, што ўпаў
на твань.
Найцяжэй пачуць плач скрыпкі
ў драбільні —
пясчаныя дзюны забілі вушы.
Маэстра пацее, аж звоніць душа.
Найцяжэй пачуць плач скрыпкі
ў драбільні.

*ВІКТАР ШВЕД*

### ВИКТОР НИКИТИЧ

Калі ж у Беларусь я еду —
Дык не завуць мяне тут Шведам.
Я з іншым тут жыву абліччам:
Виктор Никитич.
Баяўся я, што ў Беларусі
Без прозвішча дык загублюся.
І ў санаторыі „Крыніца"
Звалі мяне Виктор Никитич.
Іду я быццам сам, нібыта,
Са мною бацька мой Мікіта.
З бацькам нябожчыкам заўсёды
Адольваю ўсе перашкоды.
Каторы раз, ужо не злічыш,
Клічуць мяне: Виктор Никитич.
На Беласточчыну прыеду —
Тады вярнуся зноў да Шведа.

### МАЎЧУНЫ

А колькі ж нас у Беластоку? —
Ніхто не можа адгадаць.
Палякі ўсе на кожным кроку,
А беларусаў не чуваць.

Мы расплыліся ў польскім моры,
Як пад мятлою мыш сядзім.
На мове мы чужой гаворым,
А на сваёй ужо маўчым.

З усімі мы надзвычай згодны,
Трымаемся чужых калёс.
Каб мы хоць думалі на роднай,
Падумалі б, які наш лёс.

Што з кожным днём усё нас меней,
А што ўжо станецца праз год?
Што гінуць нашы пакаленні,
Што мы ўміраем, як народ.

Што стануцца зусім чужымі
І нашы дочкі і сыны.
Ніхто з кален нас не падыме,
Калі мы толькі маўчуны.

# КУПАЛЛЕ НАД НАРАЎКАЙ

3—4 ліпеня гэтага года ў Белавежы святкавалі Купалле. Наладзілі яго Беларускае грамадска-культурнае таварыства, Гмінная ўправа ў Белавежы і Гайнаўскі дом культуры. У Белавежу прыехала ажно дзевятнаццаць мастацкіх харавых і танцавальных калектываў з Беласточчыны і з Пружанскага раёна што ў Рэспубліцы Беларусь! Усе яны выступілі ў беларускіх народных строях.

Святкаванне пачалося летнімі прыцемкамі недзе а гадзіне 21.30 шэсцем усіх беларускіх калектываў. Удзельнікі яго неслі прыгожыя шматколерныя вянкі і запаленыя свечкі, усе спявалі вядомую абрадавую песню „Купалінка, купалінка..." Была гэта песня на сама менш трыста галасоў!

На Купалле прыбыло каля дзвюх тысяч чалавек з розных бакоў Беласточкага краю. Усіх сабраных, у тым ліку і замежных гасцей, сардэчна і шчыра прывіталі арганізатары: старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі і войт Белавежскай гміны Анна Байко ды прадстаўнік Пружанскага раёна Сяргей Тарасевіч. І пачалося...

Канцэрт вялі Валянціна Ласкевіч і Мікалай Бушко. Найперш выступілі „нашыя" самадзейнікі, між іншым з Дабрывады, Чыжоў, Ляўкова, Орлі, Бельска-Падляшскага, Рыбалаў, Гарадка, Гайнаўкі, Тыневічаў Вялікіх. Беларускія народныя песні зачаравалі, запалонілі сэрцы ўсіх прысутных. Не перашкодзіў слухаць іх нават буйны краплісты дождж, які шугануў ліўнем.

У вялікае захапленне нястомных гледачоў і слухачоў прывялі выступленні мастацкіх калектываў з Пружаншчыны, у тым ліку народнага ансамбля песні і танца „Завіруха", фальклорных: „Пружаны" і „Шані". Іх канцэрт ды танцы розных народаў закончыліся а палавіне другой ночы. І тады ўсе калектывы пайшлі з вянкамі над Нараўку. Як жа прыгожа засвяціла агнямі ціхая плынь ракі. Далёка-далёка паплылі вяночкі з запаленымі свечкамі. Дзяўчаты заспявалі „Купалінку" і зараз жа падхапілі яе юнакі.

І, нарэшце, паездка ў Старую Белавежу. Тут, амаль у самым сэрцы Белавежскай пушчы а гадзіне 2.40, на вялікай паляне запалілі вогнішчы. Далёкім рэхам паплылі адна за другой песні. Маладыя ахвотна пайшлі шукаць казачную кветку папараці... Музыканты гралі ды гралі. Хто танцаваў вакол вогнішча, што шугала ажно пад кроны высокіх дрэў, хто падсілкоўваўся кілбаскамі, печанымі над кастром. Гульні-карагоды працягнуліся да пятай гадзіны раніцы. Так хутка і незаўважальна прайшла гэтая адзіная і асабліва ўрачыстая летняя Купальская ноч.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

# БЕЛАРУСУ Ў ПОЛЬШЧЫ

## -- 335 старонак на ўсе жыццёвыя выпадкі

*А. Клышка. Беларуска-польскі размоўнік. Менск, "Вышэйшая школа" 1992 г. -- 335 с., 22000 паасобнікаў.*

Нехта з бээсэсэраўскіх літаратурных мэтраў сказаў аднойчы: "Слоўнікі ды энцыклапедыі -- квінтэсенцыя літаратуры". Пры ўсёй банальнасці гэтай формулы (згадайма: "Кніга -- крыніца ведаў") літаратурны мэтр, безумоўна, меў рацыю -- асабліва, што тычыцца слоўнікаў. Любы слоўнік (не маю на ўвазе спецыяльныя тэрміналагічныя кшталту тэхнічных, медыцынскіх і г. д.) па сваёй сутнасці -- упарадкаваны і вытлумачаны збор лексемаў, першасных моўных адзінак, і гэта агульгавядома. Складанне слоўнікаў двухмоўных -- задача, цяжкая ўдвая: пераклад з адной мовы на другую вымагае не столькі фармальнай дакладнасці (бо фармальна дакладны пераклад часцей за ўсё калька), колькі як мага большага набліжэння стылёвых модуляў гэтых моваў, а таксама -- дакладнасці транскрыпцый. Усё гэта, безумоўна, тычыцца ў большай ступені "тоўстых" акадэмічных слоўнікаў, чым маленькіх дапаможнікаў.

У "кішэнных" размоўнікаў -- задача крыху іншая, а менавіта: даць магчымасць паразумецца ў чужой краіне пры найбольш тыповых, стандартных сітуацыях.

Беларуска-польскі размоўнік А. Клышкі, безумоўна, выходзіць па-за рамкі звычайнага слоўнікавага niezbędnika. Апроч выключна побытавых тэмаў (надпісы, вывескі, шыльды, найбольш ужывальныя выразы, велічыні і меры, пошта-тэлеграф-тэлефон і пакупкі) размоўнік гэты мае мноства выразаў з адпаведнымі перакладамі, якія датычыць да тыповых і стандартных хіба што з нацяжкай. Ну, напрыклад такі сказ: "Пісьмы такія бяссільныя! Тое, што хачу сказаць, я мог бы выказаць адным пацалункам, адным позіркам, хвілінаю цішыні!" Можа, для якога-небудзь менскага спакусіцеля маладых паненак падобны пасаж і быў бы карысным, (хаця мне і не выпадала пачуць, каб менскія хціўцы масава спакушалі польскіх дзяўчатак), але сярэднестатыстычнаму беларускаму турысту больш прыдалася б скажам, такое пытанне па-польску:"Прабачце, а дзе ў вас прыбіральня?" (не смейцеся, бо ў свой першы прыезд у Беласток у 1989 годзе з падобнай праблемай давялося сутыкнуцца аўтару гэтых радкоў). Ці такая фраза: "Вам пад пяцьдзесят? Люблю такі ўзрост. Дваццаць пяць -- перыяд шаленства. Трыццаць, сорак... Найбольш рамантычны ўзрост -- пяцьдзесят. Шэсцьдзесят -- ужо заблізка да сямідзесяці. А пяцьдзесят -- гэта ў самы раз. Гэта сталасць". Згадзіцеся, што гэта выдае не на стандартную, побытавую фразу а, хутчэй, на цытату з рамана аб каханні пенсіянераў.

Найбольш, на мой погляд, каштоўны раздзел -- беларускія прымаўкі з польскімі сэнсавымі аналагамі (Mądrej głowie dość dwie słowie). Прыемна даznацца, што і ў братняга заходнеславянскага народа таксама папулярныя выразы, вельмі падобныя да нашых, напрыклад: "галава капусцяная" -- "barani łeb", "класці зубы на паліцу" -- "zaciskać pasa", "лынды біць" -- "zbijać bąki", "ні вала ні кала" -- "ani zagona, ani ogona", карацей -- "co kogo boli, o tym mówić woli". Усё гэта сведчыць аб блізкасці менталітэтаў нашых нацый.

Безумоўна, выхад гэтага размоўніка -- з'ява надзвычай карысная, бо гэта першая кніжка падобнага кшталту. Дэфіцыт газетнай плошчы не дазволіў мне зрабіць вялікай рэцэнзіі, а таму давялося абмежавацца адно канстатацыяй некаторых заўваг. А зрабіць выснову аб практычнай карыснасці ці некарыснасці гэтай кніжкі давядзецца самім жыхарам Рэспублікі Беларусь, што трапляюць у Польшчу.

**УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА**

# ПАДАЛЯНСКІМІ СЦЕЖКАМІ (1)

Барыс Руско, ураджэнец вёскі *Падаляны*, што зараз уваходзіць у склад Белавежы, абяцаў мяне і д-ра Сяргея Тарасевіча пазнаёміць з роднымі мясцінамі. І, вось, у адзін з прыгожых, чэрвеньскіх дзён, мы ўтраіх сустрэліся ля чыгуначнага прыпынка Белавежа-Палац і накіраваліся на ўсход, на дарогу, што вядзе ў Падаляны.

— Мая вёска, — пачынае сп. Барыс, — заснавана недзе пад канец XVIII ст. Першая вестка пра яе зафіксавана ў спісе ад 1790 г. Шэсць гадоў пазней, як сведчаць крыніцы, Падаляны мелі 6 валок зямлі ворнай і няўробленай.

— А ад чаго выводзіцца назва вёскі? — перарывае Барысу Сяргей.

— Вось, прыкмецце, — кажа наш праваднік, — што Падаляны, калі на іх глядзець са Стачка, ляжаць за рачной далінай, інакш — па даліне. Вось, і ад такога месцарасплажэння ўзяліся Падаляны. Старэйшыя жыхары кажуць, што да І сусветнай вайны вёску называлі *Падаляне*.

Перад намі паказальнік з надпісам *Падаляны*. Дарога добрая, асфальтавая. З часоў свайго дзяцінства і маладосці памятаю, што тут быў брук. У прыдарожных равах, у школьныя гады, прыходзілася мне пасвіць бацькоўскага каня. Колькі ўжо гадоў мінула з таго часу? Дзесьці пад трыццаць!

— Праўда гэта, што рэчка, якая перасякае дарогу, называецца *Клічынюўка*? — перарывае мае роздумы Сяргей.

— А дзе там, — нервуецца Барыс, — ніводзін старажыл яе так не называе. Гавораць проста — *Старая рэчка*. Яна выцякае недзе з-пад Грудкаў і упадае ў раку Нараўку, насупраць пачатковай школы. За чыгуначным палатном, навокал яе распаложаны падмоклы луг, які называюць *Куўшок*. Назва прыводзіць на думку рускія словы: „ковш" (чарпак землечарпалкі) і „кувшин" (збанок). Ці ад нейкага з іх утварылася назва — не ведаю. Старыя людзі сцвярджаюць, што да І сусветнай вайны луг гэты прыналежыў праваслаўнай царкве. Зрэшты, не толькі адзін луг, але і ўся паласа зямлі, што на правым берагу *Нараўкі*, якая цягнецца аж пад сцяну сённяшняга нацыянальнага парку.

— Але на карце рака называецца *Клічынюўка*, — упіраецца Сяргей.

На „паратунак" сп. Барысу іду я, паясняючы, што Клічынюўкай называлі напрыканцы XIX ст. рэчку, якой ужо няма, яна ўпадала ў Нараўку за вёскай Застава. Прынамсі гэтак можна зразумець з карты, якую апрацаваў праф. К. Дрымер (яна памешчана ў „Pamiętniku Fizjograficznym", том IX ад 1889 г.). Праф. Я. Б. Фалінскі ў сваю чаргу, састаўляючы сучасную карту, відаць, дакладна не разабраўся і назву перанёс на існуючую рэчку. Цікава, што Г. Карцоў у сваёй кнізе „Белавежская пушча" ад 1903 г. піша пра рэчку Кначынеўка, і трэба здагадвацца, што ідзе тут аб тую самую рэчку. Зрэшты, зблыталіся таксама, праз звычайны недагляд, аўтары і іншай карты Белавежскай паляны, называючы Старую рэчку Качынюўкай. Так што — назваў хоць адбаўляй!

— Дарога, якая вядзе ў Падаляны, — мяняе тэму Барыс, — зараз лічыцца вуліцай (Гранічнай), хаця дамы на ёй толькі два. У адным, старым, жыў некалі Прус (у ім зараз змяшчаецца маліто́ўны дом пяцідзесятнікаў), другі толькі што будуецца Сцяпанам Смактуновічам. Раней стаяла тут яшчэ некалькі будынкаў, але іх паразбіралі недзе ў 50-х ці 60-х гадах. Памятаю, што ў адным з іх жыў купчык. Але звярніце ўвагу на паказальнік, што стаіць на левым баку дарогі. Ён паказвае месца, дзе немцы ў апошнюю вайну расстралялі групу партызанскіх разведчыкаў.

— А калі давялі чыгунку ў Белавежу? — пытае Сяргей.

— Дакладна ў 1897 г., — паясняе наш праваднік. — Тры гады раней чыгунку працягнулі з Бельска ў Гайнаўку. І вось, як цар Мікалай ІІ меў наведаць Белавежу, чыгуначную нітку пацягнулі далей. Працы працягваліся здаецца ўсяго тры, мо чатыры месяцы. Мой дзед Антон працаваў пры пабудове. Гаварыў, што добра тады плацілі. А ведаеце, якая гісторыя выйшла з гэтай чыгункай?

Я і Сяргей сталі слухаць з увагай.

— Першапачаткова, — кажа Барыс, — лінія мела пайсці зусім інакш. Яна перасякала б грунты жыхароў Заставы і апынулася б побач Стачка, недзе ў ваколіцы Цэнтуры. Але ведаеце, як у тыя часы людзі разумелі „карысць" з чыгункі — а то куры перастануць нясціся, а то каровы не будуць даваць малака! Пагаварылі між сабой жыхары Заставы і Стачка, дык вырашылі перакупіць кіраўніцтва пабудовы. Так яно і сталася. Чыгунку пусцілі праз Падаляны. Падалянцы, на жаль, у той час найбяднейшыя, перабіць стаўку не здолелі. І гэтак лінія пайшла амаль праз сяло. Станцыю пабудавалі сярод балотаў, на ўзгорку, які называюць у нас *Бабскай гарой*. Бабскай таму, што ўзгорак невысокі.

Я толькі цяпер зразумеў, чаму так смешна і, сказаць, непрактычна перабягаюць рэйкі праз Белавежскую паляну. Яны ўпіраюцца амаль ва ўсходні яе бок, каб потым адысці ў заходні напрамак, пад Заставу. У такі спосаб Падаляны апынуліся ў своеасаблівых шчыпцах, маючы з абодвух бакоў чыгуначныя палотны. Зрэшты, не толькі ў абцугах, а нават у трохкутніку, бо да таго моманту, як немцы падчас свайго адыходу ў 1944 г. знішчылі рэйкі, цягнікі ў Белавежу дабіраліся непасрэдна палатном, якое адыходзіць перад Падалянамі і спалучаецца з лініяй, якая бяжыць з *Бабскай гары* (зараз тут таварная станцыя) у напрамку Заставы (тут знаходзіцца прыпынак Белавежа-Палац). Пасля знішчэння немцамі гэтыя невялікі адрэзак ужо не адбудоўваўся, астаўся сам насып.

— Ты добра сказаў пра трохкутнік, — адазваўся Барыс. — Мы гэтае месца паміж рэйкамі менавіта і называем *Угольнік*.

Спыняемся ў месцы, дзе дарога перасякае стары насып.

— Урочышча, якое перад насыпам, — кажа праваднік, — падалянцы называюць *За вэрбамі*, ад старых вербаў, якія раслі тут некалі. Ідучы ўздоўж насыпу на поўдзень, натрапім на ворнае поле, якое называем *За калеёю*. І вось, тут такая справа, што перад пабудовай чыгункі, ад паўднёвай сцяны лесу па саму раку цягнуліся палосы зямлі, якія жыхары Падалянаў называлі — *На пецёх, На трох, На штэрох*, значыць, ад ліку грунтаў у адным участку. Гэтыя тры палосы ўшыр пачынаюцца з месца, дзе стаім і, абапіраюцца аб дарогу, што крыху далей адбівае на поўдзень, ды ў лесе спалучаецца з дарогай у Пружаны. Пракладка чыгункі пашаткавала гэтыя ўрочышчы. Маладыя то ўжо хіба і не вельмі ў іх разбіраюцца.

— Барыс, — пытае сябру Сяргей, — а скажы, чаму тое поле, якое прыналежыць застаўлянцам і знаходзіцца на гэты бок насыпу, усё ж называецца *Падаляншчынай*?

— Вось, бачыце, — чуем у адказ, — даўно таму, калі жыхарам Падаляна́ў надзялялі зямлю, далі і гэты кусок. Але ім ужо стала яе замнога, тады пастанавілі гэтую крайнюю частку адступіць ці прадаць жыхарам Заставы. І хаця ўжо не адно пакаленне застаўлянцаў абрабляе яе, усё ж людзі памятаюць, чыёй яна была спачатку.

Пераходзім праз насып, на якім, у месцы рэйкаў, расце трава, зелле і зрэдку кусты. Уваходзім у вёску. Пасярэдзіне яе крыжуюцца дарогі. Дарогай налева, якая за ракой Нараўкай упадае ў вуліцу Маставую, можна дабрацца ў Стачок. Павярнуўшы направа, — у лес, да пружанскай дарогі.

— Мы цяпер, — паясняе Барыс, — знаходзімся ў Падалянах Першых. У найстарэйшай іх частцы. На вугле, дзе жыве цяпер ляснічы Мікалай Ліцкевіч (дом н-р 17), быў некалі пляц, адведзены для тых жыхароў вёскі, якія вярталіся з 25-гадовай службы ў царскай арміі. Гэты кусочак зямлі так і называлі *Салдацкі*. Насупраць жа яго, перад вайной, знаходзілася спажывецкая крама паляка Навіцкага. Лугі, што ляжаць над ракой Нараўкай называюцца *Аселіца* і *Шнурэ*. *Аселіца* некалі цягнулася аж пад Падаляны Другія, што размясціліся за чыгуначным палатном. Дамы за рэйкамі пачалі будаваць яшчэ да І сусветнай вайны. Зараз іх там больш, чым у Падалянах І.

Перасякаем скрыжаванне. Дамы тут, фактычна, старэнькія. Б. Руско паказвае нам калодзеж, у якім узровень вады ўзвышаецца на паўметра над зямлёй. Каб не калодзежны зруб, яна заліла б наваколле. Старэйшыя людзі кажуць, што калі яе капалі, а было гэта яшчэ перад І сусветнай вайной, вада ледзь не затапіла капальнікаў. Яны з крыкам кінуліся адтуль уцякаць, пакідаючы рыдлёўкі. Непадалёку калодзежа знаходзіцца старэнькая кузня. Даходзім да канца вуліцы.

—Далей маем, — адзываецца наш праваднік, — *Гародзіска*, значыць агароды жыхароў Падаляна́ў І. Частка іх, што знаходзіцца на левым баку, называецца *Капуснік*, бо там садзяць капусту.

*(заканчэнне ў наступным нумары)*

**ПЕТР БАЙКО**

# УСЁ МІНУЛА

„Было нас пяцёра ў бацькоў. Тата быў прымаком. Цяжка жылося з ім маці — біў ён нас часта, ды так моцна, што даводзілася нам, малым, да дзядоў уцякаць. Калі мне споўнілася дзесяць гадоў, маці захварэла на сухоты і, цяжка прахварэўшы, праз нейкі год памерла.

Так мы і засталіся: я, брат Мікола і тры сястры — Насця, Надзя ды Вера. Верка была зусім малая — усяго два гады ёй споўнілася.

Неўзабаве пасля смерці маці бацька ажаніўся. Мачыха здзекавалася з нас, як магла. Нават есці не давала — спаць клаліся галоднымі. Давялося пахадзіць па сваяках ды проста па добрых людзях — дзе хлеба дадуць, дзе спаць пакладуць. Але не заўсёды задарма. Іншым разам трэба было і аддзячыць. Выпадала рабіць па гаспадарцы амаль усё. Не ўсё маглі — нас і вучылі. Казалі людзі: „Не дай Божа рабіць усё, але трэба ўсё ўмець".

Нашыя дзяды пайшлі жыць да цёткі Даркі. У яе сваіх дзяцей не было, і таму прыняла яна нас, як родных. Там, нарэшце, і знайшлі прытулак.

Мачыха нарадзіла ад бацькі дваіх дзяцей. Бацька забраў Веру, каб пільнавала. Кепска ёй было. Была яна часта пабітая і галодная.

Калі пачалася вайна, мне споўнілася чатырнаццаць. Дзяды ў хуткім часе памерлі, і ўсю вайну нас даглядала цётка.

Пасля вайны бацька хацеў забраць мяне: „Будзеш гаспадаром, будзеш дапамагаць мне. На сваім жа лепей, чым на чужым!". Я звычайна адказваў яму: „Лепш ужо памерці, чым быць на такім сваім!"

Неўзабаве я пайшоў у войска, а браты і сёстры — у школу. Коля скончыў школу і пайшоў у прафесійную — вывучыўся на добрага сталяра. Так і застаўся ў горадзе. Я пасля войска вярнуўся дахаты і стаў гаспадарыць. Сёстры ж выехалі ў Прусы, дзе і жывуць дагэтуль.

Бацька памёр, а мачыха зноў пабралася шлюбам. Нарадзіла яшчэ двух хлопчыкаў. Дзяўчаткі, што нарадзіліся ад майго бацькі, пайшлі замуж у суседнюю вёску. Хлопцы ад другога мачышынага шлюбу пайшлі ў войска, ды так і засталіся там вайскоўцамі.

А я ажаніўся з дзяўчынай з маёй вёскі — Марысяй. Нарадзіла яна мне двух сыноў і дачку. Усе яны ўжо ў горадзе, маюць свае сем'і, дзяцей. А месяц таму ўнучка Галя нарадзіла мне праўнучка...

Во, бачыш, як усё мінула", — з сумам сказаў стары Ваня.

**АЎРОРА**




**ЧАСТКА IV**

# ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

Скажу адразу: я супраць вайсковага саюза Беларусі з Расіяй. Можа ўзнікнуць пытанне, чаму я не бяру пад увагу традыцыйнай прывязанасці беларусаў да рускіх, якой характарызуецца таксама і большасць беларусаў з усходняй Беласточчыны, асабліва, калі гаварыць аб старэйшым пакаленні. Справа ў тым, што я бяру пад увагу многавяковую практыку Расіі, якая на працягу сваёй гісторыі патаптала сотні трактатаў, якія сама падпісала. А як пастулаў Савецкі Саюз, які па сутнасці поўнасцю атаясамліваўся з Расіяй? Ён верна прадаўжаў традыцыю Расейскай Імперыі ў справе ламання трактатаў. Так Савецкі Саюз патаптаў заключаныя трактаты з Грузіяй, Бухарай, Тувай, Фінляндыяй, Эстоніяй, Латвіяй, Літвой, Польшчай, Румыніяй. Патаптаў, нападаючы на гэтыя краіны, захопліваючы часткy тэрыторыі гэтых краін, поўнасцю іх падпарадкоўваючы шляхам уключэння іх тэрыторыі ў склад сваёй дзяржавы. Расія на працягу ўсёй сваёй гісторыі была краінай агрэсіўнай. У сэнсе гэтай агрэсіўнасці можа яна спаборнічаць толькі з Германіяй, хаця агрэсіўнасць характарызавала таксама Англію і Францыю. Уся бяда ў тым, што на працягу соцень гадоў Расія, уключыўшы ў склад імперыі Беларусь, прымушала беларусаў да ўдзелу ў многіх ваенных паходах і кровапралітных войнах. Колькі беларусаў вярнулася з такіх паходаў, а колькі засталося назаўсёды ў чужых землях?.. Сёння гэтага ніхто не падлічыць. Нельга забываць і аб апошнім крывавым прыкладзе. Маю на ўвазе вайну ў Афганістане, які знаходзіцца ад Беларусі прынамсі больш чым на пяць тысяч кіламетраў. Зразумела, Беларусь не магла мець там аніякіх інтарэсаў. У афганскай вайне загінулі тысячы беларусаў. У сувязі з тым, што савецкія салдаты з ісламскіх рэспублік вельмі часта, кіруючыся рэлігійным адчуваннем з афганцамі, пераходзілі на іх бок, савецкія ўлады масава пасылалі туды беларусаў, якія прымалі ўдзел у гэтай пазбаўленай усялякага сэнсу крывавай вайне. На жаль, многія не толькі партыйныя дзеячы, але і беларускія паэты паверылі ў дэмагагічны тэзіс аб інтэрнацыянальным абавязку, пісалі з абурэннем аб тым, што паскудныя душманы забілі беларускага Янку ці Мішу. Атручаныя ваеннай дэмагогіяй, як бы не разумелі таго, што Янкі і Мішы гінулі не пад Мінскам ці Гародняй, а толькі пад Кабулам, і не ў абарончай, а ў агрэсіўнай вайне.

Калі думаю аб вайсковым саюзе з Расіяй, дык нявольна прыходзіць мне ў галаву думка аб магчымасці далейшых „афганістанаў". Зрэшты, не мусіць быць гэта вайна па-за межамі Расіі. Расія, напэўна, і ў далейшым будзе мець імперыялістычны характар. У яе межах сёння жыве мо сто народаў, і няма сумнення, што народы гэтыя раней ці пазней запрагнуць распачаць самастойнае дзяржаўнае існаванне. Зразумела, што такое імкненне будзе сустрэта рэпрэсіямі з боку Расіі. Не абыйдзецца ў такой сітуацыі без экспедыцыяў і войнаў. Хто ж можа гарантаваць, што Беларусь як вайсковая саюзніца Расіі не будзе ўцягнута ў гэтыя войны? Такім чынам дваццаць першае стагоддзе можа стацца перыядам доўгатрывалых канфліктаў, у якіх Беларусь будзе прымушана плаціць вялікую крывавую даніну.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*АНАТОЛЬ ВОЛКАЎ*

## ЧЫРВОНАЯ КНІГА

"Што з табой? - спытаў Пацук
Хахулю, -
Да каго ты, паглядзі, падобна!
І куды ты так ляціш, як куля?
Хіба, што з табой нядобра?
Можа, зноў сваю ратуеш скуру?
Кошт яе, вядома, не маленькі,
Але ж у цябе дастане дуру
Хутка з ёй растацца і навекі!"
"Што зласловіш ты? - адказвае
Хахуля. -
Хіба нельга бегчы ўжо па пушчы?
Да сваіх спяшаю на раку я,
Дзе яна цячэ праз лесу гушчу.
Нас у Чырвоную занеслі кнігу,
Каб больш ніхто не меў знішчаць
нас права.
Прыйшоў канец звера-людскому ігу,
Знайшлі на паляўнічага ўправу".
"Ды што ты кажаш?! - і Пацук
рагоча, -
Знішчалі вас, а вось цяпер
разводзяць.
Лепш ты не трапляйся ім на вочы,
Калі ты хочаш з імі быць у згодзе".
"Што тут рабіць? Быць можа ты
і правы, -
Хахуля Пацуку так адказала, -
І ваша дрэнная, як кажуць, справа:
Усім знішчаць вас наказалі.
Але ў людзей няма на тое шанцу
І нават выхаду, здаецца мне, няма.
Вы давядзеце іх хутчэй да трансу
Сваім абжорствам задарма".
"Хахуля, супакойся, што ты баеш?!
Калі ўсё тое яшчэ з намі будзе?! -
Пацук ёй кажа. - І ці ўсё ты знаеш,
Аб нас усіх і некаторых людзях?
А тое добра знаюць байкапісцы,
Што і ў людзей звярыная натура
І што звяры даўно калісьці
У чалавечую залезлі скуру.
Так і жывуць пад маскамі людзей
Тыя звяры цяпер на свеце.
З іх некаторыя заўжды ў бядзе -
Калі не кулі ім, дык сеці.
Таму цяпер сярод іх мала зубраў,
Аленяў тых высакародных, нават вас.
Знішчаюць іх не толькі вострым
зубам,
А подласцю, каварствам іншы раз".

* * *

Калі хто гэта ўсё прыняў за казку,
То хай начэпіць што каштоўнае на
крук,
Які належыць да вялікай пасткі -
І хтосьці пападзецца, як пацук.

*БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ*

## У ПЯЦЬ ДЗЕВАК

У гульні могуць прымаць удзел усе, хто пажадае. Адзін з удзельнікаў бярэ мяч і гаворыць:

— Я знаю пяць дзевак:
Маня — раз,
Таня — два,
Люда — тры,
Света — чатыры,
Тома — пяць.

Я знаю пяць хлопцаў (называе імёны).

Я знаю пяць гарадоў (назваць).

Я знаю пяць рэк (назваць).

Я знаю пяць красак (кветак) (назваць).

Потым па чатыры, па тры, па два, па адным. Калі мяч упадзе, гульню пачынае другі ўдзельнік. Пераможа той, хто давядзе гульню да канца.



*"Цяжкі сноп" — такі подпіс быў падздымкам, надрукаваным шмат гадоў таму назад. Хто на гэтым здымку? Можа,твае мама ці тата?*

**Фота Аляксея Казберука**

## ПРАГНЫ РЫБАК

*КАЗКА*

На лясным возеры з'явіўся новы Рыбак. Дзень і ноч сядзеў ён з вудай на беразе, пад альховым кустом, браў усё, што пападалася на кручок. Не грэбаваў і малой рыбай. І жыхароў возера ахапіла трывога.

— Так ён усіх нас пераловіць, — абураўся Шчупак. — Адны жабы застануцца. Трэба нешта рабіць.

Прыплылі рыбы да старога, паважанага ўсімі Сома і паскардзіліся на прагнага Рыбака. Сом сказаў:

— Ты, Шчупак, плыві і папярэдзь яго: калі не зменшыць свайго апетыту, сілай прымусім пакінуць возера.

Прыплыў Шчупак да альховага куста, высунуўся з вады і кажа Рыбаку:

— Лаві, як і ўсе, патрошку!

Рыбак засмяяўся:

— Колькі хачу, столькі і лаўлю. Вас у возеры шмат, на мой век хопіць.

— Тады мы, рыбы, аб'яўляем табе вайну, — прыгразіў Шчупак.

— А гэта бачыш, ваяка? — замахнуўся вудай Рыбак. — Уцякай, пакуль не падчапіў на кручок!..

Вярнуўся Шчупак да Сома ні з чым, сумны. Паварушыў Сом сваімі доўгімі вусамі, як заўсёды, калі прымаў важнае рашэнне. І папрасіў, каб Шчупак сабраў усіх рыб, вялікіх і малых.

Вечарам жыхары возера ціха падплылі да альховага куста — любімага месца Рыбака. Сом асцярожна ўзяў губамі не кручок з прынадай, а грузіла і тузануў. Рыбак схапіў вуду, пацягнуў, але — марна: лёска напялася, як струна, а вудзільна сагнулася ў дугу. „Вялікая рыбіна ўзялася", — зразумеў Рыбак, і сэрца яго моцна забілася ад радасці. Ён спусціўся бліжэй да вады, пачаў памалу падцягваць рыбіну. Убачыўшы Сома, нагнуўся, каб падхапіць яго, выкінуць на бераг. І ў гэты міг дужы Сом штосілы рвануў за вуду. Рыбак не ўтрымаўся на нагах і плюхнуўся ў ваду.

— Хапайце яго! — закрычаў Сом.

Рыбы дружна накінуліся на Рыбака. Учапіліся хто за руку, хто за нагу і пацягнулі на сярэдзіну возера.

— Даражэнькія рыбкі, адпусціце! — пачаў прасіцца небарака. — Я шкадую, што не паслухаўся Шчупака.

— А ты не маніш? — спытаў Сом.

— Не, не маню! Адпусціце мяне, даражэнькія рыбкі...

І рыбы павярылі Рыбаку, выцягнулі яго на мель. З таго часу ён рэдка прыходзіць пад альховы куст, ловіць патрошку, як і ўсе астатнія рыбакі. А малых рыбак заўсёды адпускае назад у возера.

**ПЯТРО РУНЕЦ**

*АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ*

## КРЫЎДА

У Алесі
Дзве касы,
Нібы з шоўку
Паясы.
Іх Алеся
Заплятае,
Расчасаўшы іх
Спярша.
І я чую,
Як спявае
Радасна
Яе душа.
Раптам бачу,
Што Алеся
У слязах
На ложак лезе,
Зарываецца
Ў падушку...
Ціха клічу я
Дачушку:
- Што з табою?
Што з табою? -
Толькі
Круціць
галавою.
- Ой, згубіла я
Прыколку.
Нехта, мабыць,
Падабраў...
- У слязах
Ці многа
толку? -
Спачувальна
Я спытаў.
- Знаю, татка,
Толку мала,
Ды такой мне
Не знайсці.
Я ніколі
Не губляла
Шчэ нічога
У жыцці...

## ПАВУЧОК

Кросны
Выткаў павучок.
Сам схаваўся
За сучок.
Замаркоціўся ён
Трошкі:
Ані мухі,
Ані мошкі
Сёння ў сетку
Не ляцяць.
Зноў галодны
Будзе спаць.
Толькі
Што гэта за грук?
Уляцеў
У сетку жук.
Аж наліпла
Павуцінка
На даўжэзныя
Вусы,
Аж пасыпала
Асінка
Долу
Кропелькі
Расы.
Што рабіць
Цяпер жуку,
Бо павіс ён
На суку?
- Чуеш, чуеш,
Павучок,
Не хавайся за сучок.
Лепей
Вызваль
Мае крылы
З гэтай ліпкай
Павуціны.
З ёю я
Дадому з лугу
Па траве
Не дапаўзу.
Я табе
За гэта
Муху
На вячэру
Прывязу.

*З ВУЧНЁЎСКАЙ ТВОРЧАСЦІ*

# ЗАЧАРАВАНАЯ ЦМАЧЫХА

У адной далёкай прыгожай краіне жылі цмокі. Яны кралі прынцэс, рушылі вёскі, карацей, займаліся тым, чым належыць займацца сапраўдным цмокам.

Але быў сярод іх адзін лянівы, тоўсты цмок. Ён і не думаў рабіць таго, што рабілі ягоныя браты. Наадварот, яму гэта ўсё было непатрэбна. Ён пісаў вершы. Але пісаў не таму, што яму падабалася. Не, ён любіў рабіць карысныя справы, а калі ёсць папера, дык трэба ж каму-небудзь на ёй пісаць. Меў ён яшчэ ката Рыжманда. Кот быў тоўсты, распузеўшы. Толькі і рабіў, што еў ды спаў.

Аднаго разу цмокі злавілі прыгожую прынцэсу і замкнулі яе ў вежы, што стаяла каля цмокавай пячоры. Прынцэса і не спрабавала ўцячы, а толькі гаварыла сама да сябе пра нейкую залатую пячору.

Цмоку-паэту прынцэса спадабалася і ён яе выпусціў.

- Калі што спатрэбіцца, кліч мяне, - сказаў цмок.

- Я табе вельмі ўдзячная, цмок, - адказала прынцэса.

- Ведаеш, я люблю рабіць карысныя справы. А ты б тут ад смутку з глузду з'ехала.

- Так. А ці не хочаш пайсці ў залатую пячору?

- Вядома, хачу.

- Тады хутчэй. А то ў цябе браты такія!

Цмок паклаў Рыжманда ў вялікую торбу з мясам, узяў яе пад паху, і яны пайшлі.

Праз два дні хады прынцэса так стамілася, што проста не магла ісці. Тады цмок пасадзіў яе на карак і паляцеў. Ляцеў цмок тры дні і адну гадзіну. Потым прынцэса зноў пайшла сама. Але праз некалькі гадзін на іх напалі кажаны, якіх было тысячы тры, не менеі. Але сярод іх была адна хатняя мыш, хаця і з крыламі. Яны хацелі абрабаваць цмока і прынцэсу. Цмок, вядома, забіў штук пяцьсот, але прынцэса з імі нічога не магла зрабіць.

Тут Рыжманд вылез падыхаць свежым паветрам, і хатняя мыш закрычала:

- Бегма! Бегма! Дзікая жывёла! Бегма!

І мышы падаліся туды, адкуль прыляцелі. А цмок, Рыжманд і прынцэса праз дзень без усякіх прыгод дабраліся да залатой пячоры.

Рыжманд адразу залёг у плеценую талерку для садавіны і заснуў.

Пячора сапраўды знутры была з чыстага золата, у ёй валяліся дыяменты, смарагды і іншыя каштоўнасці. Але... яны не маглі жыць удвох, бо знайшлося б шмат рыцараў, якія захацелі б забіць цмока і пабрацца шлюбам з прынцэсай.

Тут у дзяўчыны ўзнікла свежая думка.

- Ведаеш, - сказала яна цмоку, - давай я цябе пацалую. Можа, ты зачараваны прынц...

Яна пацалавала цмока, але ён так і застаўся цмокам.

Вечарам засмучаная прынцэса вымушана была ісці. На развітанне цмок пацалаваў яе ў шчаку. І тут прынцэса ператварылася ў прыгожую, з бліскучай луской цмачыху. Цмок вачам паверыць не мог.

- Ты ніколі мяне не пакінеш, - зачараваная мармытаў цмок.

- Ніколі! - казала радасная цмачыха.

А Рыжманд якраз прачнуўся і вельмі-вельмі здзівіўся, убачыўшы свайго гаспадара, які абдымаў незнаёмую, прыгожую цмачыху.

**Мар'яна Кудраўцава**
вучаніца 4 класа с/ш 75
г. Менска

# СТАРАЖЫТНЫЯ РАМЁСТВЫ БЕЛАРУСІ

### БЕЛАРУСКАЯ РЭЗЬ

Гэтым энцыклапедычным тэрмінам азначаны адзін з цікавейшых відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі XVII-XVIII стагоддзяў - манументальна-дэкаратыўная аб'ёмна-ажурная разьба па дрэве, якою аздаблялі інтэр'еры палацаў і храмаў.

Дробнаўзорыстая разьба ў XV-XVI стагоддзях, у сувязі з агульным развіццём рамёстваў і промыслаў, ужо перастала задавальняць майстроў, якія аздаблялі ёю інтэр'еры манументальных збудаванняў, перш за ўсё іканастасы праваслаўных храмаў. Уплывы заходнееўрапейскага стылю барока з яго пышнасцю і дэкаратыўнасцю паскорылі гэты працэс. У XVII стагоддзі разьба набыла аб'ёмны характар, калонкі іканастасаў уяўлялі сабой ажурнае перапляценне пышных раслінных парасткаў з гронкамі і лістамі, у якія ўпляталіся фігуры птушак, жывёл, чалавека. Разьбу пакрывалі спецыяльным грунтам (ляўкасам) і залацілі, што надавала ёй надзвычайную дэкаратыўнасць, іканастасы ў мігатлівым святле быццам палымнелі. Такой разьбой аздобілі многія храмы на Беларусі, у тым ліку - Багаяўленскі сабор (2-ая чвэрць XVII стагоддзя, не захаваўся) і Мікалаеўскую царкву (3-яя чвэрць XVII стагоддзя) у Магілёве.

Назву "беларуская рэзь" аб'ёмна-ажурная разьба атрымала ў Маскоўскай дзяржаве, дзе беларускія майстры аздобілі інтэр'еры шэрага палацаў і храмаў. Сярод работ беларускіх майстроў-разьбяроў асабліва вылучаецца буйнамаштабны іканастас Смаленскага сабора Навадзявочага манастыра ў Маскве (1683-1685 гг.), упрыгожаны ажурнымі калонкамі з адмыслова перапляценай вінаграднай лазой, фігурнымі карнізамі і картушамі.

Як адзначаюць даследчыкі рускага мастацтва, хоць некаторыя з прымененых беларускімі майстрамі матываў сустракаліся раней у рускім мастацтве, але ніколі яшчэ з такой жывасцю, веданнем прыроды і майстэрствам не выконваліся ў разьбе кветкі, фрукты і травы.

**ЯЎГЕН САХУТА**

# АБЛЯПІХА

Летам Паўлік не ходзіць у дзіцячы сад, а жыве ў вёсцы, у бабулі. Там з ім і здарылася няшчасце.

Неяк мыла на верандзе бабуля бялізну. Адвярнулася яна ад металічных начовак, дзе ў кіпені адбельваліся Паўлікавы маечкі, кашулі. А Паўлік хацеў узяць цацачнага пінгвіна, зачапіўся нагой за карыта і сеў у ваду. Добра, што было на ім доўгае палітэчка. Ды ўсё роўна праразлівы крык агаласіў наваколле.

— А мой жа ты саколік, — перапалохалася бабуля. — А як жа занесла цябе ў гэты пракляты кіпень?..

З таго дня пачалі хлопчыка лячыць. Татаў знаёмы перадаў лётчыкам з Масквы, дзе тата быў у камандзіроўцы, бутэлечку жаўтаватай цягучай вадкасці.

—Гэта абляпіхавае масла, — сказаў ён. — Трэба гусіным пёркам змазаць абвараную скуру.

Хлопчык ляжаў на жываце, а бабуля лячыла. І ранкі хутка зацягваліся.

Потым наступіў дзень, калі Паўлік вышаў пагуляць з хаты. Асцярожна перастаўляў ногі, хадзіў па двары, дзівіўся на крапіву, дзьмухаўцы, якія за апошні час ладна падняліся ад зямлі.

А восенню, калі Паўлік ужо збіраўся ў горад, тата прывёз у вёску тры галінкі з прадаўгаватымі, вузкімі лісцікамі.

— Гэта абляпіха, — сказаў тата. — Зараз мы яе пасадзім.

Ён узяў рыдлёўку, выкапаў ямкі. Папрасіў, каб Паўлік падтрымліваў галінкі, а сам прысыпаў іх свежай зямлёй. Потым Паўлік паліў іх вадой са сваёй палівачкі. Галінкі знізу прыцерушылі сухім лісцем, каб зімой не вымерзлі.

Міналі тыдні, месяцы. Абляпіха разраслася, бы тая лаза. І ў канцы лета Паўлік убачыў на галінках жоўтыя ягады. Яны густа абляпілі дрэўцы.

— Таму яе і называюць абляпіхай, — растлумачыў тата.

Ад'язджаючы ў горад, Паўлік нашчыпаў ягад у кошык. Прынёс у дзіцячы сад, у сваю групу.

— Што гэта? — здзівілася выхавальніца.

— Гэта абляпіхавыя ягады, — сказаў Паўлік. — З іх можна зрабіць масла, каб потым лячыць ранкі.

— Малайчына ты, Паўлік, — пахваліла выхавальніца. — Толькі спадзяюся, што ў нашым садзе няшчасця ніколі не здарыцца.

**МІХАСЬ ДАНІЛЕНКА**

# АКНО

Акно вельмі пакутавала: было яно празрыстае, і ніхто яго не заўважаў. Але вось надышла зіма. Мароз размаляваў шыбы дзівоснымі ўзорамі. Толькі радасць акна была нядоўгай. Шыбы працерлі, ачысцілі ад зіхатлівага інею.

"Чаму людзі знішчаюць прыгажосць? - дзівілася акно. - Няўжо зайздросцяць мне?"

"А ты не разумееш? - азваўся падваконнік. - Людзі хочуць бачыць сонца, вуліцу, снег".

"Навошта тады я? -ззвінела акно. - Усё гэта і без мяне можна ўбачыць. Варта выйсці на вуліцу..."

Аднойчы здарылася бяда. Захварэла маленькая Каця. З кожным днём ёй рабілася ўсё горш. Нішто не памагала. Тады доктар сказаў, каб Кацін ложак перанеслі да акна. Так і зрабілі. Толькі спачатку працерлі шыбы. І Каця ўбачыла вуліцу, дрэвы, птушак. Сонечныя промні залілі пакой. Дзяўчынка заўсміхалася, радасцю засвяціліся вочы.

Праз нейкі час Каця пачала папраўляцца.

А вясною акно памылі, і ў шыбах адбілася блакітнае неба, залатое сонца. Акно зразумела, што яно патрэбна людзям.

**ВЯЧАСЛАЎ ЗЫКАЎ**

# ЯК МАЛПЫ ЗГУБІЛІ „М"

### З казак пра алфавіт

Мама Мартышка малола муку. Маленькія малпы Мікі і Мукі памагалі. Мікі — мукамол. Мукі — мукасей.

Мала-памалу змалолі мяшок малін, мяшок маслін.

У Мікі — мазалі, маркотна мармыча:

— Мука малоць муку.

Малпяня Мукі тармосіць маці:

— Мама, ам, ам марожанае.

— Малайцы! Дам вам марожанае і мармелад. Мыйцеся!

Мікі і Мукі маўкліва мылі мылам мордачкі. Мылі, мылі і вымылі М. Матыльком замітусілася М, мігам мятнулася з млына. Мяшкі сталі яшкі, мука — ука, млын — лын.

Мікі крычыць:

— Мама, мельнік махае.

Без М атрымлівецца:

— А-а, ельнік ахае.

Мукі вымаўляе:

— Мама, мне страшна!

Атрымліваецца:

— А-а, не страшна!

— Ікі, Укі!.. Ікі, Укі!.. — Мартышка шукае малпянят.

А малпяняты на магутнай магноліі ловяць матыльковае М. Мудрая мама Мартышка памагае Мікі і Мукі. Маланкай мітусяцца малпы, мармычуць:

— Мы эм ам! Мы эм ам!..

Без магічнага М малпіна мова мізэрная:

— Ы-э-а! Ы-э-а!..

**ВАСЯ ВЯСЁЛКІН**

# КАЛЯРОВАЯ „ЗОРКА"



*Памалюй пустыя палі - шэрым, пазначаныя кропкай - блакітным, трохкутнікам - жоўтым, крыжыкам - чырвоным, а рыскай - чорным колерам.*

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# КАНЮШЫНА — КВЕТКА НАШЫХ ЛУГОЎ

Канюшына лугавая (*Trifolium pratense* L.) расце ў Еўропе на лугах і траўніках. Ад XVIII ст. вырошчваецца як важная кармавая расліна. У Польшчы яе вырошчваюць здаўна, асабліва на добрых глебах, пад назвай чырвонай канюшыны.

Здараецца, што сцябло канюшыны даходзіць да паўметра вышыні. Лісце — трохлістава, лісткі яйкаватыя ці эліпсічныя. Кветкі пурпурова-чырвоныя, часамі — белыя, сабраныя ў круглыя або часцей яйкаватыя галоўкі, даўжынёю да 3 см.

Сыравіну канюшыны для лячэння збіраюць ад мая да верасня. Зрываюць расцвіўшыя галоўкі кветак разам з пладаножкай і верхнімі лісцямі (даўжыня — каля 7 см) і сушаць на паветры ў прадуўным месцы або ў ацяпляемай сушарні. Атрымліваюць такім чынам у якасці сыравіны зёлкі канюшыны — *Herba Trifolii rubri*. Часамі збіраюць толькі галоўкі кветак без пладаножкі і лісця. Пасля іх высушэння атрымліваюць сыравіну кветка канюшыны — *Flos Trifolii rubri*.

Прэпараты з канюшыны дзейнічаюць мачагонна і адхарківаюча, змяншаюць запальны стан верхніх дыхальных шляхоў і прызнакі астмы. Вадзяныя экстракты дапамагаюць працы печані і жоўцевага пузыра, рэгулююць функцыянаванне страўнікавага тракту, дапамагаюць апаражненню і паляпшаюць апетыт. Знешне гэтыя прэпараты выкарыстоўваюць супраць свярбення, болі і запалення скуры.

Такім чынам, адвары з зёлак і кветак чырвонай канюшыны прымяняюць пры парушэннях працы страўніка, пры запорах і слабым апетыце, а таксама як слабы мачагонны сродак. Апрача таго, выкарыстоўваюцца яны як адхарківаючы сродак пры катарах верхніх дыхальных шляхоў. Знешне прымяняюцца для паласкання рота і горла пры запальных станах, а пры дапамозе кампрэсаў і ваннаў лечаць свярбенне скуры, невялікія апарванні, раны, якія цяжка гояцца, і нарывы.

Часамі збіраюць зацвітаючыя часткі белай канюшыны — *Trifolium repens* L. Пасля высушэння ў натуральных варунках атрымліваюцца зёлкі белай канюшыны — *Herba Trifolii albi*. Гэтыя зёлкі вельмі дапамагаюць ад паносу. У народнай медыцыне прымяняецца як сродак узмацняльны, супрацьболевы, а таксама пры прастудзе, туберкулёзе, рэўматычных і жаночых хваробах.

**Адвар з канюшыны**

Дзве з паловай лыжкі раздробленых зёлак канюшыны заліць трыма шклянкамі гарачай вады, паставіць на пару, накрыўшы мінут на 15—20. Настойваць 10 мінут, працадзіць. Піць па 2/3 шклянкі 3 разы ў дзень на гадзіну да яды пры кепскім апетыце, запорах, недастатковым выдзяленні мачы, а таксама пры катарах верхніх дыхальных шляхоў. Знешне прымяняць для паласкання рота і горла пры запальных станах, а таксама для кампрэсаў пры свярбенні скуры, апарваннях, ранах, якія цяжка гояцца.

**Наліўка на канюшыне**

Да паўлітра 40-працэнтнага алкаголю дадаць 30 г раздробленых у парашок зёлак канюшыны, 10 г зёлак птушынага драсёну (rdestu ptasiego — *Polygonum avikulare* L.) і 10 г зёлак баркуна (nostrzyka —*Melilotus officinalis* Desr.). Пакінуць у зачыненым посудзе на працягу 10 дзён, часта патрэсваючы. Працадзіць праз вату. Піць па 20 мл перад абедам і перад сном, па меры патрэбы можна разрэдзіць наліўку вадой ці фруктовым сокам. Піць наліўку на працягу 3 месяцаў, а пасля лячэнне спыніць на 10 дзён і распачаць новы цыкл. Лячэнне праводзіць пры артэрыясклерозе з нармальным ціскам крыві, калі баліць галава і шуміць у вушах. Пры гэтым неабходна перайсці на дыэту.

**Мачагонныя зёлкі з канюшынай**

Змяшаць па 30 г зёлак канюшыны і лісця бярозы, а таксама па 20 г зёлак хвашчу і карэнішча пырэю. Усыпаць у тэрмас дзве з паловай лыжкі зёлак, заліць іх трыма з паловай шклянкамі гарачай вады, зачыніць тэрмас і паставіць яго на 1 гадзіну. Выпіць на працягу дня ў 3—4 порцыях паміж ядою пры недастатковым выдзяленні мачы, пры хваробах нырак, пры рэўматычных хваробах, а таксама пры некаторых хваробах скуры.

**Ванна супроць свярбення**

Змяшаць 100 г зёлак канюшыны з 50 г кветак ліпы і 50 г зёлак крываўніка (krwawnika —*Achillea millefolium* L.). Заліць трыма літрамі цёплай вады, падаграваць паволі пад покрыўкай да кіпення і настойваюць яшчэ 5 мінут. Працадзіць у ванну. Зёлкі, што засталіся, палажыць у палатняны мяшочак, завязаць і перанесці ў ванну, напоўненую вадой тэмпературы 37—39°C да 1/3 аб'ёму. Час прымання ванны — 10—15 мінут. Рабіць такія ванны 1—2 разы ў тыдзень пры свярбенні скуры, прышчах, запальных станах, пасляаперацыйных шрамах, ацёках пасля знешніх удараў ды і наогул дзеля таго, каб зрабіць мышцы больш адпорнымі.

Пададзеную вышэй зёлкавую мяшанку можна прымяняць таксама пры частковых ваннах, напрыклад, ног, або для мыцця галавы пры перхаці ці празмерным выпаданні валасоў.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Даражэнькі Астроне! Зусім нядаўна мне і майму мужу прысніліся дзіўныя сны. Я адразу сказала мужу, што яны нядобрыя. Ён таксама згадзіўся са мною. А паслухай, што нам снілася.

Майму мужу прыснілася, што ён частаваў нейкім пірожным сваіх калег, якія ўжо нябожчыкі. У яго ж ёсць шмат калег, але яму якраз прысніліся два супрацоўнікі, якія якраз памерлі. Я дык яшчэ падумала, што мо гэтае пірожнае яму прыснілася, бо перад гэтым гадкім сном якраз у іхняй каляжанкі былі імяніны, го можа гэта было з гэтым звязана...

Але ж і мне сніцца дзіўны сон. Была я быццам у іншым горадзе, ці толькі збіраюся туды ехаць. І атрымліваю ліст ад бацькі, які жыў у гэтым горадзе. Але я ўжо дома. Не ведаю, што і думаць. Ты заўсёды паўтараеш, што бацька прадвяшчае нейкія цяжкасці. Мой бацька ўжо не жыве.

І вось, уяві сабе, што мой муж захварэў і трапіў у бальніцу. Я ўпэўнена, што гэтыя паскудныя сны прысніліся нам на хваробу.

**Алена**

Алена! Сапраўды, першы сон, у якім твой муж частаваў нябожчыкаў пірожным, прадказвае як бы хваробу страўніка, але можа тыя нябожчыкі будуць спрыяць і яго выздараўленню. Гэта наконт першага сну.

Што датычыцца твайго сну, дык і ён нядобры. Атрымаць ад некага ліст — значыць будзе нейкая вестка, найчасцей неспадзяваная. Але ты атрымала яго ад бацькі, дык будзе яна звязана з нейкімі цяжкасцямі. Вось табе і сны на хваробу. Ты мела рацыю, Алена.

**АСТРОН**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў:

4160. Аляксандр Баршчэўскі (Варшава) — 500.000 зл.
4161. Міхал Хмялеўскі (Беласток) — 100.000 зл.
4162. Валянціна Ласкевіч (Беласток) — 100.000 зл.
4163. Лідзія Саевіч (Гайнаўка) — 100.000 зл.
4164. Аляксандр Іванюк (Гайнаўка) — 20.000 зл.
4165. Уладзімір Юзвюк (Беласток) — 100.000 зл.
4166. Фёдар Галёнка (Варшава) — 100.000 зл.
4167. Зінаіда Навіцкая (Бельск-Падляшскі) — 100.000 зл.
4168. Тамара Русачык (Бельск-Падляшскі) — 100.000 зл.
4169. Пётр Прышчэпка (Беласток) — 100.000 зл.
4170. Мікалай Нікалаюк (Гайнаўка) — 100.000 зл.
4171. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка) — 100.000 зл.

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

## ВІРАВАНКА З „Ё"

1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

1. ежа ў пэўнай колькасці і на пэўны час, 2. вынік старанняў, дасягненне, ураджай, 3. ліставое дрэва, 4. рана ад агню, 5. сярод збожжа, 6. вусы злакаў, 7. вышэй капітана, 8. сваяк каня, 9. акцыя вярбоўкі на працу або службу, 10. малое авечкі (канчаецца на „ё"), 11. чужая жанчына для дзяцей або ўсходнеславянская багіня дабрабыту і ўрадлівасці, 12. божы пасланец.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 30 н-ра. Упоперак:** апал, буран, Алушта, клык, манах, народ, Чарнігаў, пат, нумізмат, Арканзас, ага, пружанка, пойла, ілгун, брод, Аляска, саван, сват. **Уніз:** курага, Нарач, паланіна, лак, Тураў, ствол, хабанэра, Налібокі, план, такт, Эмба, Этна, установа, груган, горла, пласт, Алтай, бас.

## БУХОННЫЯ ПЯРАДЫ

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ПЯЛЬМЕНІ З КРАПІВОЙ**

Прадукты:

*30 дэкаў маладой крапівы,*
*1 цыбуліна,*
*1—2 лыжкі алею, масла ці маргарыну,*
*цеста на піражкі з паўкілаграма мукі.*

Крапіву памыць, дробна пасячы, тушыць на тлушчы разам з дробна нарэзанай цыбуляй.

Падрыхтаваць цеста. Муку прасеяць на вялікую стальніцу, зрабіць у муцэ рукою „кратэр", у які ўбіць яйка і ўліць пакрысе летнюю гатаваную ваду, бесперапынна месячы рукою. Вады павінна быць столькі, каб цеста было дастаткова моцнае і добра цягнулася, інакш не ўдасца зляпіць піражкі. Падрыхтаванае раней цеста загарнуць у сцірачку, каб не высыхала.

Цеста раскатаць, нарэзаць квадраты з бокам 5—6 см. На кожны квадрат палажыць крыху фаршу. Складаць квадраты па дыяметру і зляпліваць малыя, трохкутныя піражкі. Зварыць іх у пасоленай вадзе. Падаваць з растопленым маслам або смятанай.

**Гаспадыня**



Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1993 r. upływa 20 sierpnia 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Захад** — частка свету, якая ляжыць, вядома, на захад ад Усходу. Заселена па большай частцы хрысціянамі — уплывовым племенем крывадушнікаў, асноўным заняткам якіх з'яўляецца забойства і падман, што яны звычайна называюць „вайна" і „камерцыя". Аднак на Усходзе людзі адрозніваюцца ў асноўным толькі рэлігіяй.

**Захапленне** — ветлівае прызнанне таго, што хтосьці вельмі падобны да нас.

**Звер** — гл. Муж.

**Згода** — гармонія.

**Знаёмы** — чалавек, якога мы ведаем настолькі добра, каб пазычыць у яго грошы і не настолькі добра, каб пазычаць яму. Калі чалавек бедны ці невядомы, мы называем яго проста знаёмым, калі ж ён багаты ці вядомы — добрым знаёмым.

**Знаўца** — спецыяліст, які ведае ўсё аб нечым і нічога аб усім іншым.

**Золак** — час, калі мудрыя людзі кладуцца спаць. Але некаторыя старыя якраз у гэты час абуджаюцца, прымаюць халодны душ і шпацыруюць на пусты страўнік, забіваючы, такім чынам цялесную распусту. Пасля яны сцвярджаюць, што дзякуючы менавіта гэтаму яны маюць добрае здароўе і дажылі да такіх гадоў. Хаця, папраўдзе, усё гэта сталася насуперак іх заняткам. Так мала старых здаровых мужчын мы бачым таму, што ўсе іншыя, хто вя.іі „здаровы лад жыцця", даўно памёрлі.

**Ідыёт** — член вялікага і магутнага племені, якое дамінуе над чалавецтвам.

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*

*УЛАДЗІМІР ЕРМАЛАЕЎ*

## КРЫЎДА

Бедаваў Іван Хандронін,
Што сябры скупыя трохі.
— Вось Антон:
Пазваў на дачу
Ї запрог, як тую клячу.
Бёрны... дошкі,
Цэгла... гравій...
А бутэльку не паставіў!

Тры разы Васіль Заможны
У гараж мяне завозіў.
Ой, вялізны,
Ой, глыбокі...
Там цягаў не цэглу — блокі.
Сам жа ён, як нэпман,
Правіў,
А бутэльку не паставіў!

Вершаплёт таксама скнара,
З тым другім — два боты пара.
У лазні я яго нядаўна
Лупцаваў,
Ды гэтак слаўна!
Рады быў,
У вершы славіў,
А бутэльку не паставіў!






*Малюнак Л. Разладава*

*УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА*

## ЯК АДЗІН ЧАЛАВЕК НЕ ПАЗНАЎ ШЭРУЮ БРЫДОТУ І ШТО З ГЭТАГА АТРЫМАЛАСЯ

*(беларуская казка)*

Давялося неяк аднаму чалавеку ісці ноччу праз могілкі. Ідзе ён уздоўж помнікаў — а ноч-та цёмная, ані месяца, ані зорак. Страшна таму чалавеку. І тут раптам з-за вялікага крыжа насоўваецца на яго штосьці такое чорнаечорнае. „Ой!" — толькі і паспеў сказаць той фацэт, а чорная-чорная пачвара ўсміхаецца: „Што, страшна? Не прызнаў мяне? Дык ведай: я чорная могілкавая брыдота. Не прызнаеш мяне наступным разам, зраблю так, што звар'яцееш са страху!.."

Праз некаторы час зноў выпала таму чалавеку ісці ўначы праз тыя ж могілкі. Ідзе ён па алеях — а ноч яшчэ цямнейшая, чым мінулым разам, зусім нічога не бачна. І тут з-за помніка выскоквае штосьці такое белае-белае і рушыцца на таго чалавека. „Ай!" — толькі і паспеў вымавіць ён, а белая-белая пачвара, усміхаючыся, кажа: „Што, напалохаўся? Бач, ажно каленкі дрыжаць. А мог бы і здагадацца, хто я. Я — белая могілкавая брыдота! Калі наступным разам не прызнаеш мяне, тут, на могілках, і сканаеш!.."

Мінула яшчэ колькі часу, і так атрымалася, што зноў трэба было таму чалавеку ісці апоўначы праз цвінтар. Прабіраецца ён па капцах, нічога не відаць, страх яго душыць, але ён самога сябе падбадзёрвае — маўляў, вунь і могільнікавая брамка, а там і вуліца, шырокая і светлая. Падыходзіць ён да брамкі і бачыць, што стаіць там нешта шэрае, ды такое ўжо паскуднае, што проста плюнуць хочацца.

—Ага, — радасна выпаліў той чалавек, — вось цяпер я прызнаў, хто ты. Ты — шэрая могілкавая брыдота!

— Грамадзянін, хадземце...

* * *

Ї сапраўды, ніхто не скажа, з кім сустрэцца горш: з могілкавай брыдотай ці з савецкім міліцыянтам?..

## СЕНТЭНЦЫІ

*

Адзін крок варты больш, чым тузін паўкрокаў.

*

У сваю павуціну трапляе не павук, толькі чалавек.

*

Хоць жанчына і раніць, прабачаем ёй, як ружы, усе калючкі.

*

Прамінае не мода, прамінае яе хада.

**БАРЫС РУСКО**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

Вальдэк часта прыходзіў выпіўшы, а нават прыязджаў на таксі. Абрыдла гэта Анюце. Раз спыталася ў яго:

— Што ж зрабіў бы ты, Вальдэк, каб я часта выпівала або нават таксоўкай прыязджала, п'янёрная такая?!

— Зразумела, як урэзаў бы табе шнурам ад праса, ой, прыгрэў бы!..

— Ну, то памятай, як паявішся п'яны, то і я ўгрэю. А падымеш на мяне руку — нябось, кіну і ў свет пайду!

З тае пары Вальдэк штораз радзей прыходзіць дадому п'яны.

* * *

Марэк і Крыся пабраліся шлюбам з вялікага кахання. Было між імі вельмі добра, пакуль не нарадзіўся малы. Хлопчык шмат плакаў. Нервавала гэта бацьку, і каб выйсці з нерваў, Марэк сыходзіў у піўную. Жонка цярпела, урэшце ўзяла каляску і пайшла за мужам.

— Пільнуй яго тут, — паказала мужу пальцам, — ён і твой сын. А я пайду па сваіх справах.

Кінуў Марэк недапітае піва, пачуўшы смех сяброў і пайшоў з малым дадому.

* * *

— Яна не вельмі прыгожая, калі прыгледзішся, але неяк вабіць да сябе. Як яе не бачыш, то не баліць галава. А ўбачыш — то ў галаве кружыцца, на сэрцы цяплей..

— А што то гэта за дзяўчына? — зацікавіліся Юлькавы сябры.

— Якая вам дзяўчына?! Я ж пра гарэлку гавару!

* * *

— Сёння ў школе правяралі, хто курыць папяросы, — кажа васьмікласнік Юрка маці.

— Ну і што?

— Аказалася, што толькі адзін не курыць.

— Можна цябе пахваліць, сынок?..

— Што ты, мама! Гэта ж толькі наш дырэктар не курыць!

* * *

— У будучыні я буду найлепшым веласіпедыстам свету! — хваліцца бацьку Петрусь.

— Адкуль ты гэта ўзяў?

— Я ўчора абагнаў дзядзьку Колю на трактары!

* * *

— Чаму ты ажаніўся з такой старэчай? — пытаюць Юрку.

— У мяне — сіла, а ў яе — вопыт.

* * *

— Усё можна ў свеце купіць. Няма нічога даражэй грошай! — кажа Кастусь.

— А вазьмі ты і купі вернасць і здароўе! —прапануе дзед Антось.

**АЎРОРА**




Дарагое Сэрцайка! Мне 40 гадоў. Рана я засталася ўдавою. Думала, што яшчэ ў жыцці знайду сабе чалавека, з якім змагу дзяліць і радасць, і горычы жыцця. Які будзе мяне разумець і шанаваць, кахаць мяне, дапамагаць чым можа.

У той момант я не думала пра нейкія справы „пасцелі", пра секс. Мне здавалася, што найважнейшае — гэта знайсці сабе прыяцеля, каб не быць самотнай. Больш за ўсё я баялася адзіноты.

Ад таго часу прайшло шмат гадоў. Не мела я больш у жыцці шчасця. Дзевяць партнёраў змяніла за гэты час. Былі і мілейшыя, і менш мілыя, але ўсе нейкія аднолькавыя. Дальбог, ніводзін з іх не дагадзіў мне ў пасцелі. Стручкі ва ўсіх былі нейкія маленькія, кволыя. Палавыя зносіны ператвараліся замест радасці ў нейкую катаргу. У мяне заставаўся толькі нясмак пасля такой забавы, тады цэлы дзень хадзіла злосная, як сабака. Разглядалася за іншым, лепшым, а лепшага не было.

Мне ўжо здавалася, што сапраўдныя мужчыны перавяліся. Вярталася часта ў думках да свайго мужа-нябожчыка. Што гэта былі за часы! Умеў ён кахацца! Памятаю ўпойныя ночы, калі пацалункі і пяшчоты працягваліся да раніцы. Мог ён кахацца па некалькі гадзін запар, ды як! Сэрца спявала раніцай, хаця ноч была амаль непраспаная.

І вось пару тыдняў таму сустрэла я яшчэ аднаго мужчыну. Як стаў у маіх дзвярах, дык я ледзь не самлела. Волат! Асілак! Прыгожыя белыя зубы асвятлялі яго твар усмешкай. Я падумала, што нарэшце спаткала таго, хто быў мне патрэбны. Вось мой лёс, маё прызначэнне! Мы пачалі сустракацца. І ўсё было добра, пакуль з ім не апынулася я ў ложку. На жаль! Замест парадачнага стручка ў яго была нейкая фічка. Дальбог, было гэта нешта такое, як палец, які вытыркаецца з фігі. Не было ніякай прыемнасці, Прайшоў мой энтузіязм.

Ніколі раней я не ўяўляла сабе, што добры секс можа мець такое важнае значэнне ў жыцці. Ніколі не думала, што можна не знайсці сабе мужа толькі таму, што нехта не пасуе мне ў пасцелі. Я заўсёды лічыла, што найважнейшае ў чалавека — гэта яго добры характар, прыхільныя адносіны.

Ну, і як мне цяпер жыць? Бадай ужо да канца свету я буду адна. А мо я ўжо проста старая, дык на мяне ляцяць абы што... Як ты думаеш, Сэрцайка?

Надзея

Надзея, даражэнькая! Ты памылялася, калі думала, што дастаткова сустрэць добрага чалавека, каб быць з ім шчаслівай. Секс у нашым жыцці адыгрывае зусім не другарадную ролю, кіруе ўчынкамі чалавека, кшталтуе яго погляды на свет, адносіны да чалавека. Калі чалавек шчаслівы ў каханні, ён талентны і добры да людзей, бо свет здаецца яму прыгожы. Калі секс (такі, які ёсць) не дае задавальнення, свет выглядае панурым, а людзі — непрыхільнымі. Вось і ты бачыш свет у чорных колерах. Твае сорак гадоў — гэта яшчэ не старасць. Секс дапамагае чалавеку ўтрымаць маладосць аж да позняй старасці. Вядома... пакуль усё гэта выглядае эстэтычна.

Табе, Надзея, проста не шанцавала. Мо ты выбірала занадта старых мужчын? Разгледзься сярод маладзейшых! Табе ж і трыццацігодак быў бы парай.

**СЭРЦАЙКА**